


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

7 лютага 2003 года

№ 6 (407)
Выходзіць па пятніцах

плюс Тэлетыдзень

**Навіны рэгіёну**

## Снег на трасе

**МАЛАДЗЕЧНА.** 12 ДТЗ адбылося ў горадзе і раёне 5 лютага з-за выпаўшага ў той дзень снегу. Гэта найбольшы сёлетні паказчык. Чвэрць ДТЗ адбылася па віне пешаходаў. У выніку шпіталізаваныя 3 чалавекі, яшчэ двое атрымалі менш цяжкія пашкоджанні.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



**На Вялікім Гасцінцы паміж вуліцамі Хмяльніцкага і Віленскай у сераду.**
Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

## З'елі шалёную лісу

**ВАЛОЖЫН.** За студзень у раёне зарэгістравана 8 выпадкаў шаленства жывёл.
У вёсцы Нарэйшы ў адзін з двароў сабака прыгнаў лісу. Гаспадары зварылі яе і з'елі. Шкурку дапамаглі здымаць дзеці. Экспертыза паказала, што ліса была шалёная. Пацярпелым прызначылі лячэнне.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Прыз «Зеніту»

**ВІЛЕЙКА.** Завод "Зеніт" атрымаў магнітолу за перамогу ў абласным конкурсе па занятасці моладзі.
Завод больш за іншыя прадпрыемствы прыняў на работу беспрацоўнай моладзі ва ўзросце да 31 года. Для 15 чалавек на "Зеніце" стварылі спецыяльныя вучнёўскія месцы. Усяго ў конкурсе ўдзельнічала больш за 20 прадпрыемстваў.

**Ірына РАБУШКА.**

## Дом сацпаслуг

**АСТРАВЕЦ.** 11 лютага ў вёсцы Завельцы ў будынку былой базавай школы ўрачыста адкрыецца Дом сацыяльных паслуг.
У Завельцах і навакольных вёсках жыхароў становіцца ўсё менш, там няма ні клуба, ні бібліятэкі. Загадчыца дома будзе збіраць інфармацыю аб патрэбах вяскоўцаў і перадаваць яе ў райвыканкам. А адтуль плануюць наладзіць зваротную сувязь.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Гераін у сметніку

**АСТРАВЕЦ.** Памежнікі знайшлі 3 кілаграмы наркотыкаў у пакетах у сметніку цягніка "Масква-Калінінград".
Па папярэдняй ацэнцы, гэта гераін. Перавозчыкаў не ўстанавілі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# Лепшая актрыса года

**МАЛАДЗЕЧНА. Актрыса Мінскага абласнога драматычнага тэатра Ірына Камышава ўзнагароджаная прэміяй ад Мінскага аблвыканкома як лепшы прафесійны работнік мастацтва.**

Калегі Ірыны, якія заходзілі ў грымёрку падчас нашай размовы, запэўнівалі, што Ірына – самая лепшая ў тэатры: і як партнёр на сцэне, і як чалавек, чым часта ўганялі ў чырвань нашую гераіню.

Шлях у тэатр для яе не быў гладкім. Гэтым мастацтвам Ірына хварэла яшчэ са школы, але, як цяпер успамінае, была сарамлівай дзяўчынай і не прызнавалася, што хоча быць актрысай. Спачатку атрымала тэхнічную адукацыю, а толькі потым прыйшла да таго, што тэатр – яе жыццё. Яна занятая ў асноўным рэпертуары, цікавая ў любой ролі. З поспехам выконвае вядучыя ролі ў спектаклях: "Секс па перапісцы" Лявона Машко (Марыя), "Хочаш вер – хочаш не вер"... Юрыя Вуты (Матрона), "На другі дзень Сёмухі" Юрыя Вуты паводле п'есы "Прымакі" Янкі Купалы (Пелагея).

Артыстка аднолькава пераканаўчая ў трагікамедыі "Секс па перапісцы" ў драматычнай ролі Марыі і ў ролі Розі ў яркай камедыі "Без мяне мяне жанілі" Франца Ксавера Кроца. Почырк артысткі адчуваецца і ў асляпляльнай Луізе ў спектаклі "Восем закаханых жанчын" Рабера Тама, і ў простай, непасрэднай, з вялікім пачуццём гумару і іроніі Марыі ў "Прынцы Мамабуку". Удалася яркая драматычная роля Жанеты ў спектаклі "Чорная нявеста" Жана Ануя, дзе абвостраны падтэкст ролі.

Цікава і актыўна Ірына Камышава працуе ў спектаклях для дзяцей. Сярод іх "Мымрык" Валянціна Афоніна, "Буслік супраць Кадука" Георгія Марчука.

Галоўнай прычынай папулярнасці Мінскага абласнога драматычнага тэатра Ірына назвала дружны калектыў як творчых, так і тэхнічных работнікаў. Калі 4 гады таму Ірына прыйшла ў тэатр, калектыў ужо сфарміраваўся. Ірыну прынялі, яна за гэты час знайшла свайго гледача.

Да пераходу ў драматычны тэатр Ірына 8 гадоў адпрацавала ў лялечным тэатры "Батлейка". Аб тых часах успамінае з удзячнасцю. Ніколі не думала аб перамене месца працы. Але не шкадуе, што так атрымалася.

Акцёры – людзі прымхлівыя, свой рытуал перад выхадам на сцэну ёсць амаль у кожнага. У дзень спектакля – ніякіх інтэрв'ю, толькі пасля.



Актрыса Мінскага абласнога драматычнага тэатра Ірына Камышава ў вобразе Розі ў грымёрнай тэатра пасля спектакля «Без мяне мяне жанілі».
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Мінулы год для Ірыны выдаўся ўдалым: было прызнанне як на працы, так і шчасце ў сям'і. Чаго Ірына і жадае чытачам "РГ".

**Валянціна ШЫКАВЕЦ, Юрый КАРПІЦКІ.**

### Градкі пойдуць пад бульдозер

Вясной у Маладзечне камунальныя службы плануюць зраўняць градкі каля шматпавярховак.

**3-я старонка**

### Гадзіннік Міхаіла Каламійца

Украінскія журналісты былі ў Маладзечне, каб разабрацца ў прычынах смерці ўкраінскага журналіста Міхаіла Каламійца, якога восенню знайшлі павешаным у лесе непадалёк ад Вязынкі.

**4-я старонка**

### Паскрэбачак – малодшай дачцэ

Цяпер мы амаль згубілі традыцыі выпечкі свойскага хлеба. Засталіся ўспаміны, як пяклі хлеб на Смаргоншчыне ў другой палове мінулага стагоддзя.

**5-я старонка**

■ АДПАЧЫНАК

# Кіно не будзе?

**Сёння кінатэатры многіх невялікіх гарадоў перажываюць крызіс. У маладзечанскай "Радзіме" звычайна не пустуюць усяго 15-30 месцаў з 500. А поўныя залы збіраюцца толькі на знакамітыя прэм'еры.**

Асноўныя наведвальнікі – школьнікі, навучэнцы, працоўная моладзь. Але калі-нікалі з'яўляюцца тут і людзі ва ўзросце. Звычайна карыстаюцца глядацкай сімпатыяй амерыканскія баевікі і камедыі. Савецкае кіно вельмі непапулярнае. Летам наведвальнасць увогуле зніжаецца – людзі на дачах, выязджаюць на адпачынак.

Прычыну такой нізкай папулярнасці кіно дырэктар маладзечанскага філіяла УП "Кінавідэапракат" Таццяна Дрозд і метадыст Алена Паскаль не ведаюць. Бо ўсе выгоды для наведвання "Радзімы" ў жыхароў Маладзечна ёсць. Рэпертуар для кінатэатра рыхтуюць у Мінску. У пачатку кожнага месяца ўжо гатовая праграма на наступны месяц. І ўсе лепшыя фільмы, што ідуць у Мінску, праз месяц-два з'яўляюцца ў Маладзечне.

У памяшканні кінатэатра цёпла. Там рэгулярна праводзяцца тыдні оскараўскіх фільмаў, стужак з фестывалю "Лістапад", канцэрты, дыскатэкі, святкаванні, салодкія сталы. А таксама наладжана перасовачная відэасістэма. Такім чынам, кіно можна паказваць у розных памяшканнях, на выпускных балях і іншых мерапрыемствах. Атрымоўваецца, што амаль уся праграма накіраваная на арганізаванага наведвальніка. Але чамусьці ўсё часцей і часцей школьнікаў вядуць у гарадскія бары на розныя мерапрыемствы, у камп'ютэрныя клубы.



Людзі забыліся дарогу ў кінатэатры. Маладзечна, кінатэатр «Радзіма».
Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

Алена Паскаль успамінае, што ў яе маладосць не было такога, каб прапусціць фільм. "Калі не паглядзіш кіно, то не было аб чым гаварыць. Гэта было месцам нашых сустрэч. Я лічу, што любы фільм – добры. Менш наведвальнікаў стала дзесьці ў 90-я гады. Думаю, што кінатэатр павінен узрадзіцца".

"Радзіма" датуецца з дзяржаўнага бюджэту, але ўсё роўна фінансавае становішча кінатэатра цяжкае: там няма ні камп'ютэра, ні ксерокса, ні факса. "Мы радыя, – гаворыць Алена Паскаль, – атрымаць любую дапамогу збоку, але не дармова. Узамен мы гатовы супрацоўнічаць. Можам даць памяшканне на другім паверсе для якога-небудзь офіса, а таксама для правядзення сходаў з праглядам фільмаў".

Аднак такое становішча не ўсюды. У Мінску, да прыкладу, часта немагчыма купіць білет у кіно ўжо за паўгадзіны да сеанса. Можа быць, там узровень жыцця вышэйшы, ці кантынгент насельніцтва іншы. А можа, прычына ў новай сістэме Dolby (гук вакол). У кінатэатры "Радзіма" дынамікі знаходзяцца за экранам, а ў Dolby-залах яны размешчаны вакол гледача. Такая сістэма ў хуткім часе павінна з'явіцца і ў Маладзечне.

Таццяна Дрозд гаворыць, што іх задача разварушыць гледача. "Яго аддача не такая вялікая ў параўнанні з напружаннямі работнікаў кінатэатра. Трэба, каб глядач змяніў свае адносіны да кінатэатра, каб адчуў розніцу паміж вялікім экранам, тэлебачаннем і відэа. Па тэлевізары ўдзень мы часта бачым вельмі адкрытыя сцэны, карціны гвалту. А мы ў суботу і нядзелю паказваем фільмы для сямейнага прагляду".

Застаецца толькі пажадаць: хадзіце ў кіно, ды і білеты не дарагія – ўсяго да тысячы рублёў.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

■ ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Ці ходзіце вы ў кіно?



**Юрый Гвозд, студэнт:**
– У тэатр хаджу, а ў кіно не. Дома ёсць відэамагнітафон, тэлевізар, ды і часу няма наведваць кіно.



**Сяргей Беляхоў:**
– У апошні час не хаджу – праца перашкаджае. Фільмы ў кінатэатрах не вельмі добрыя, і цэны не задавальняюць.



**Зоя Каралевіч, мастачка:**
– Я працую ў кінатэатры. Гляджу толькі прэм'еры, напрыклад, была на "Тытаніку", "Сібірскім цырульніку". А дома вельмі часта хочацца проста пачытаць кнігу.



**Марына Хвашчэўская, беспрацоўная:**
– Няма часу – сяджу дома з дзіцём. Але, бывае, хочацца схадзіць у кіно.



**Жэня Касцючэнка, школьнік:**
– Так, хаджу. Там і фільмы цікавыя паказваюць, і на вялікім экране лепш глядзець, чым дома па тэлевізары.

**Падрыхтавала Жэня МАНЦЭВІЧ.**

■ КАНЦЭРТЫ

## «Экспромт» працягвае цешыць

**ВІЛЕЙКА. 2 лютага адбудзецца канцэрт узорнай дзіцячай эстраднай студыі "Экспромт" Вілейскага Палаца культуры. Кіраўнікі Алег і Нэла Зайцавы лічаць гэтае выступленне адным з самых удалых за ўвесь час існавання гурта. Танцавальнае суправаджэнне і асобныя нумары прадставіў гурт "Не сакрэт" пад кіраўніцтвам Аляксандра Кнебелева.**

Свае песні гледачам падарылі Наталля Хоміч, Алена Салохіна, Ганна Ярошчык, Марыя Рабая, Каця Сушко, Алеся Далгіх, Тома Дубяшко, Уладзік Ермакоў, Вераніка Савіцкая, Алена Шыкавец, Паліна Вазняк. З ужо вядомых "зорак" "Экспромта" напрыканцы першага аддзялення з замежным рэпертуарам выступіла Наталля Салава.

Алег Зайцаў кажа, што, магчыма, будзе створаны музычны альбом "Экспромта".

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ АНОНС

## «Здароўе дзяцей горада»

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёння ў 13.30 у Доме культуры чыгуначнікаў адкрыецца паседжанне "круглага стала" на тэму "Здароўе дзяцей горада".**

Арганізатар – грамадскае аб'яднанне "Маладзечанскі экалагічны цэнтр "Крыніца". Мэта "круглага стала" – знайсці шляхі вырашэння праблем, звязаных са здароўем дзяцей, і выпрацаваць рэкамендацыі дэпутатам і выканаўчай уладзе.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ МІНУЛАЕ

## Злодзеяў спынілі ў Будславе

**МЯДЗЕЛ. У мінулым нумары "РГ" пісала пра крадзеж у двух касцёлах у рэгіёне. Падобная гісторыя адбывалася на Мядзельшчыне год 7-8 таму, і таксама зімой. Тады злодзеяў затрымалі пры спробе пранікнуць у Будслаўскі касцёл.**

На рахунку злодзеяў было некалькі дзесяткаў крадзяжоў у блізкіх ад Маладзечна раёнах. На Мядзельшчыне абакралі царкву ў Княгініне, дзе ўзялі абразы. Пасля гэтага ў міліцыі палічылі, што злачынцы не спыняцца на гэтым, і прынялі рашэнне дзяжурыць штоноч на ўсіх 16-ці храмах Мядзельшчыны. І аказалася, недарэмна. Дзесьці праз два тыдні злачынцаў удалося затрымаць. Ноччу яны спрабавалі залезці ў Будслаўскі касцёл, але міліцыянеры іх спудзілі.

Успамінае адзін з удзельнікаў затрымання – начальнік інспекцыі па падатках і зборах Іван Будзько (у той час ён у міліцыі ўзначальваў аддзел па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю):

– Я дзяжурыў у Крывічах. Стэлефанаваліся з хлопцамі, што ахоўвалі Будслаўскі касцёл, і тыя расказалі пра спробу пранікнення. Выехаў на дапамогу. Агледзелі сляды – вялі яны на станцыю Будслаў. Там двух злачынцаў і затрымалі, пры гэтым давялося і ў паветра страляць. А яны па дарозе ўжо пачалі расказваць пра свае "подзвігі".

Высветлілася, што адзін з іх з Масквы, другі з Санкт-Пецярбурга. Палічылі, што ў Беларусі зручна крадзяжамі з храмаў займацца: шмат іх па ходзе цягнікоў знаходзіцца. "Працавалі" так: сядалі ў Маладзечне на электрычку ці дызель (накірунак мог быць любы — Ліда, Круляўшчызна) і выбіралі па дарозе аб'ект для чарговага крадзяжу. У наступную паездку і залазілі ў храм. Займаліся ў асноўным абразамі. Рэалізоўвалі іх у Маскве, мо' што і за мяжу ўплывала.

У гэтым выпадку мядзельская міліцыя адзначылася і пазбавіла ад галаўнога болю і святароў, і сваіх калег, бо злачынцы ўчынілі крадзеж у храмах у многіх раёнах.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## Ахвяра хуліганшчыны

Хуліганшчына у гуці "Залесьсе" (Віленск. губ. вілейск. пав.), дзе працуе колькі сот чалавек, дасюль вядома па троху, цяпер дала знаць ва ўсім сваім характэре.

Прывёз яе у гуту вядомы чытачом "Н. Н" (гл. №25 1912) Васіль Якубоўскі. Як ужо ведама, ён скрываўся ад суда, а цяпер ізноў вярнуўся к бацьком. Але з лепшай эдукацыяй, чым уперад. Да яго прылучыліся вядомыя ва ўсёй гуці і ва ўсёй ваколіцы буяны і разбойнікі: В. К. і В. В., каторым выбіць каго, ці дзе пабіцца, вялікая радасць. А злашча меўшы такога таварыша, як В. Я., яны задумалі адзін раз паказаць сваю рызыку. 30 студня, кончыўшы у ночы работу, яны без дай прычыны напалі на І. С. і крэпка яго пабілі. Гэта хлопец, каторы нікому нічога благога не зрабіў, сьветлы і добрага сэрца. Калі за гэтага хлопца сказаў адно слова Ф. З., то і яго спаткала тое самае: яго гэтак сама збілі да паўсьмерці; хлапец такжэ ціхі. Трудна сабе ўцяміць, з якім зверствам білі яны людзей. Пачалі яны біць у трох, к ім прымкнулі другіе буяны, каторых што раз болей знаходзіцца у гуці, пачалі лётаць палкі, разлегацца удары і крыкі "бій яго! бій яго!" патрэсалі сумны грамады будынак гуты.

Назаўтра гэтые хуліганы завялі вечарынку на канцы гуты (на каторай, на вялікі стыд, быў адзін сьвятлейшы чалавек), сабралі дзеўчат, купілі шмат гарэлкі і пачалі танцаваць, а пасьля, напіўшыся гарэлкі, біцца паміж сабой. В. К. і В. В. пачалі біць Якубоўскага. Хтось наказаў матцы яго. Тая прыбегшы пачала бараніць сына, а ён ужо лежаў прыбіты. Якубоўская відзючы, што сына хочуць дабіць, павалілася на яго і сваім матчыным целам хацела закрыць яго ад сьмерці, але Кучка схапіўшы палена ударыў нешчасную кабету разоў пяць па галаве. Раны вельмі цяжкіе, так што кабета праз суткі памерла. Убійцоў арэштавалі, будзе сьледзтва.

**Газета "Наша Ніва" №6 ад 7 лютага 1913 г.**

■ ГАСЦЁЎНЯ

# Сёлета не палепшае

**ВІЛЕЙКА. На палітычнай арэне Беларусі ўсё больш чуваць імя Ігара Баслыка, дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ад Вілейскай выбарчай акругі.**



Дэпутат Палаты прадстаўнікоў ад Вілейскай выбарчай акругі Ігар Баслык быў адным з тых, хто прагаласаваў супраць прынятага варыянту гадавога бюджэту краіны.
Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

У парламенце ён працуе ў камісіі па бюджэце, фінансах і падатковай палітыцы. Адначасова І. Баслык з'яўляецца намеснікам старшыні кантрольна-бюджэтнай камісіі савета Міжпарламенцкай асамблеі СНД. Нядаўна далучыўся да дэпутацкай групы "Рэспубліка".

**– Да абрання ў дэпутаты Вы працавалі дырэктарам птушкафабрыкі "Зара камунізму". Ці цяжкі быў пераход ад гаспадарніка да палітыка?**

– Гэты пераход яшчэ не завяршыўся. Каб стаць палітыкам, мала года, двух. Як гаспадарнік я прызвычаіўся бачыць вынікі сваёй працы. А ў парламенце шмат працую, лічу, што займаю актыўную пазіцыю, а вынікаў не бачна.

**– Як змянілася жыццё для ўсёй вашай сям'і?**

– Сям'я пераехала ў Мінск у маю службовую кватэру, хоць сам я не змяніў прапіску. Жонка нядаўна ўладкавалася на працу. Старэйшы сын вучыцца ў ліцэі пры БДПА, малодшы – у гімназіі. Паспяховасцю іх вучобы задаволены.

**– У Палату прадстаўнікоў Вас абралі выбаршчыкі двух раёнаў: Вілейскага і Мядзельскага. Як удаецца дзяліць паміж імі ўвагу?**

– Мне больш удаецца працаваць з Вілейскім раёнам. Маю дачыненні да шмат якіх добрых спраў, напрыклад, чыгуначны прыпынак "Зеніт", падключэнне горада да прыроднага газу. Працаваў, вядома, разам з выканаўчай уладай

**– З якімі праблемамі да Вас найчасцей звяртаюцца?**

– З жыллёва-камунальнымі, працаўладкавання і матэрыяльнай дапамогі. Праблемы, з якімі прыходзяць выбаршчыкі, накладаюцца на законапраекты, пачынаеш разумець сутнасць пытанняў. Гэта дазваляе больш прафесійна працаваць у парламенце.

**– Як Вы можаце ацаніць дзейнасць парламента?**

– На кожнай сесіі мы разглядаем і прымаем каля ста законапраектаў. Ідзе іх бурнае абмеркаванне, у адрас урада часам гучыць рэзкая крытыка. Як дэпутата парламента мяне хвалюе і тое, што прававое поле нашага заканадаўчага органа скарачаецца. Штогод прымаецца вялікая колькасць часовых дэкрэтаў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Яны маюць большую сілу, чым закон. Уносіць змены ў дэкрэты, згодна з нашай Канстытуцыяй, мы не маем права, а адхіляць іх можам толькі канстытуцыйнай большасцю. Упершыню за ўсю гісторыю існавання парламента на пятай асенняй сесіі не быў падтрыманы Дэкрэт прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб некаторых пытаннях рэгулявання аплаты працы работнікаў". Я думаю, гэты выпадак паслужыць стрымальным фактарам для тых, хто распрацоўвае праекты дэкрэтаў.

**– Вы працуеце ў камісіі па бюджэтна-фінансавай і падатковай палітыцы. Як можна ацаніць бюджэт Беларусі на 2003 год?**

– Я адзін з нямногіх дэпутатаў, якія галасавалі супраць прынятага варыянта бюджэту, таму што не згодны з ім. Знікае сацыяльная скіраванасць бюджэту. Паменшаны льготы, павялічваюцца камунальныя плацяжы, зніжаюцца дзяржаўныя інвестыцыі. Бюджэт гэтага года каля 5 мільярдаў долараў, што складае каля 20 % ад бюджэту 1991 года. Гэтыя грошы не могуць сур'ёзна змяніць сітуацыю, а дзяржава па-ранейшым бярэ на сябе зашмат абавязкаў. Зніжаюцца паступленні падаткаў, таму што меншае колькасць прыбытковых прадпрыемстваў. Бюджэт – гэта лакмусавая паперка эканомікі. Ужо відаць, што ў 2003 годзе паляпшэння не будзе.

**– Якое выйсце Вы бачыце ў гэтай сітуацыі?**

– Патрэбны радыкальныя рынкавыя рэформы, якія прывядуць да значна больш эфектыўнай працы эканомікі. Рана ці позна гэта прыйдзецца рабіць. Шкада змарнаванага часу. Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2001 года было аб'яўлена аб лібералізацыі, на якую я вельмі спадзяваўся. Вобразна кажучы, гаспадар, які не можа пракарміць сабаку, спускае яго з ланцуга, каб ён пракарміўся сам. Але сёння ў нас працягваецца жорсткае адміністрацыйнае рэгуляванне. Дзяржава спрабуе ўсё трымаць у сваіх руках, а рэсурсаў на гэта не хапае.

**– У сваёй перадвыбарчай праграме Вы выказваліся за прыярытэтнае развіццё сельскай гаспадаркі. Ці захавалася гэта пазіцыя?**

– Пазіцыя не змянілася. Сельская гаспадарка зараз у поўным заняпадзе. Лічу, што гэта звязана, па-першае, з неэфектыўнай дзяржаўнай фінансавай падтрымкай, якая складае да 70 долараў на гектар сельскагаспадарчых угоддзяў. Існуючая сістэма размеркавання гэтых сродкаў не стымулюе вытворцу. Па-другое, няма рэформаў, якія змаглі б значна павысіць матывацыю працы на вёсцы і паспрыяць укараненню ў сельскай гаспадарцы новых тэхналогій. Між тым, пераўтварэнні ў кітайскай эканоміцы пачаліся з сельскай гаспадаркі, а ў ЗША пры выхадзе з глыбокага эканамічнага крызісу пачатку XX стагоддзя былі ўведзены асаблівыя ўмовы для сельскай гаспадаркі.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 30.01 руб. | 6.02 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1947,00 | 1957,00 |
| Еўра | 2119,50 | 2136,36 |
| Злоты | 511,76 | 512,44 |
| Літ | 613,98 | 618,83 |
| Расійскі рубель | 61,23 | 61,47 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1940/1965 | 1940/1965 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 29.01 | 5.02 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10500 | 10500 |
| Сасіскі, 1 кг | 4510 | 4510 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 740 | 740 |
| Грэчка, 1 кг | 1100 | 1100 |
| Цукар, 1 кг | 1045 | 1045 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1250 | 1200 |
| Алей, 1 л | 1550 | 1600 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 400 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | 650 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 630 | 600 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 750 | 700 |
| Капуста, 1 кг | 790 | 720 |
| Морква, 1 кг | 720 | 900 |
| Лімоны, 1 кг | 2400 | 2400 |
| Апельсіны, 1 кг | 1650 | 1550 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1 л | 700 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1700 | 1700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1600 | 1600 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 4000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | 1300 |

■ ІНІЦЫЯТЫВЫ

## Дапаможам адзін аднаму

**АШМЯНЫ. У канцы студзеня ў Ашмянах адкрылася некамерцыйная ініцыятыва "Дапаможам адзін аднаму".**

Займаецца гэтым ашмянка **Ала Маеўская**. Мэта – сабраць побач адзінокіх людзей, якім трэба дапамога, каб грамадой вырашаць праблемы. Жадаючыя паўдзельнічаць могуць патэлефанаваць да Алы Маеўскай па тэлефоне 2-07-68.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ПАДАРОЖЖЫ

## 33 кіламетры пешшу

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулыя выхадныя група ўдзельнікаў турыстычнага гуртка "Эдэльвейс" Маладзечанскай СШ №7 пайшла ў паход.**

Вучні прайшлі па дарозе ад Алёхнавіч да Маладзечна.

Маршрут пралягаў па дарозе, якая з абодвух бакоў акружаная лесам.

Зваротны шлях праходзіў праз вёску Гарадок. Тут удзельнікі паходу зрабілі прывал і пазнаёміліся з мясцовай адметнасцю – млынам. Ён захаваўся тут з польскіх часоў.

Усяго юныя турысты прайшлі 33 кіламетры.

**Яўген САВІЦКІ, удзельнік паходу.**

■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

## Градкі пойдуць пад бульдозер

**МАЛАДЗЕЧНА. Не першы год у горадзе ідзе вайна ўладальнікаў градак ля шматпавярховак і камунальных службаў.**

Гараджане хочуць вырошчваць гародніну ля дома, а камунальнікі – зрабіць газоны і высадзіць кветкі, каб добраўпарадкаваць тэрыторыі каля дамоў. Гарвыканком выдае распараджэнні аб забароне градак ля шматпавярховак з 1998 года, але яны ёсць і цяпер.

А "вінаватыя" ў гэтым уладальнікі градак. Найбольш актыўна адстойваюць правы на занятак агародніцтвам пенсіянеры. Знішчыць градкі замінаюць бабулькі, якія літаральна лезуць пад бульдозер. Размовы з агароднікамі і аб'явы на дамах праблему не вырашылі.

### Ліквідацыя градак

**Аргументы «за»**

**1. Горад не ўпрыгожваюць від і пах угнаенняў, градкі і парнікі, асабліва тыя, якія размешчаныя побач з цэнтральнымі вуліцамі.**
**2. Няма гарантыі, што ўраджай будзе належнай якасці, бо глеба ля аўтадарог забруджаная адходамі нафтапрадуктаў.**
**3. Існуе распараджэнне гарвыканкома №01-9/141р ад 18.04.02 г. аб забароне самавольнага ўладкавання градак на гарадской тэрыторыі агульнага карыстання. За яго невыкананне ёсць рызыка заплаціць штраф.**

**Аргументы «супраць»**

**1. Ураджай з градак ніколі не бывае лішнім, асабліва для пенсіянераў.**
**2. Участкі пад гароды, якія выдзяляе гарвыканком, знаходзяцца на гарадскіх ускрайках, таму не кожны можа штодзень летам туды наведвацца. А ля дома мець градкі зручней, і вада пад бокам.**
**3. Участак ля дома можна абгарадзіць і тым самым захаваць ураджай ад злодзеяў.**
**4. У горадзе ля шматпавярховак ёсць градкі. Калі іх не знеслі, то займацца агародніцтвам на практыцы не забаронена.**

### Што будзе вясной

Восенню ўсе гарадскія домакіраўніцтвы атрымалі прадпісанні ад цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Камунальныя службы павінныя вясной заараць усе гароды і засадзіць гэтыя плошчы травой.

Ліквідаваць градкі плануецца ў два этапы: спачатку ля цэнтральных вуліц, а затым астатнія. Гэта тычыцца толькі гародаў ля шматпавярховак. Прыватны сектар чапаць не будуць. За парушэнне санітарных нормаў утрымання тэрыторый населеных пунктаў гараджане могуць атрымаць штраф. Пацерпяць тады і домакіраўніцтвы.

Усім жадаючым участкі для агародніцтва выдзеляць спецыялісты ўпраўлення архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання гарвыканкома. Заяву трэба падаць да красавіка. На выбар тады вы атрымаеце ўчастак у 3-5 сотак у раёне Вялікага Сяла, старых гарадскіх могілак, прадпрыемства "Уторчармет". Сума падатку – каля 1000 рублёў за сотку ў год. Шматдзетныя сем'і і адзінокія пенсіянеры ад уплаты падатку вызваляюцца.

Калі вы сумняваецеся, ці можна есці вырашчаныя ля дома прадукты, цэнтр гігіены і эпідэміялогіі можа зрабіць аналіз гародніны на ўтрыманне радыенуклідаў, нітратаў, а пры неабходнасці – на ўтрыманне солей цяжкіх металаў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Знайшлі злачынцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. 30 студзеня супрацоўнікі Чысцінскага аддзялення міліцыі выявілі 6 злачынцаў, якія выкралі 80 метраў алюмініевага дроту з дачнага ўчастка ў Касцюшках.**

Затрымалі і адправілі ў ізалятар часовага ўтрымання дваіх, астатніх – шукаюць.

**Ірына РАБУШКА.**

## Зачыняйце форткі

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак з пакоя інтэрната гандлёва-эканамічнага каледжа ўкралі тэлевізійную антэну.**

Яе "вынеслі" праз разбітае шкло форткі. Міліцыя праводзіць праверку.

**Ірына РАБУШКА.**

## Застаўся без дублёнкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Вечарам з гардэроба аднаго з гарадскіх бараў укралі дублёнку аднаго з кліентаў.**

Кража адбылася паміж 10-ю і 11-ю гадзінамі. Узбуджаная крымінальная справа.

**Ірына РАБУШКА.**

## Згарэў дом

**МАЛАДЗЕЧНА. 31 студзеня згарэў дом у вёсцы Громавічы Маркаўскага сельсавета.**

У доме пажарнікі знайшлі труп, які немагчыма апазнаць. Мяркуецца, што гэта 57-гадовы сын гаспадара дома. Прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні ў нецвярозым стане.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ПІШУЦЬ ЧЫТАЧЫ

# Што ў Ашмянах самае горшае?

Мае даражэнькія! Я застаўся і далей з вамі. Не знаю, чаму мне падабаецца "Рэгіянальная газета", хаця тут многае мне не падыходзіць. Адно толькі, што вельмі дрэнна пісаць па-беларуску ці па-руску. Адзіная мова, каторую я ведаю, дык гэта польская. На польскай мове я пішу вершы, каторыя чытаюць на польскім радыё. Мяне ў Польшчы многія ведаюць. Я там быў ужо два разы. Акрамя вашай газеты я яшчэ выпісваю, што ў Гродне выпускаюць, — "Глос з-над Немна".

Я ўжо стары, але чытаю многа, жыву адзін-адзінёхенькі. З новага года пайшоў мне ўжо 82 год. А жыву я на самай дарозе – едучы з Смаргоні на Ашмяны, не даязджаючы да Жупран, — аўтобусны прыпанак "Нарбуты" – гэта амаль супраць маёй хаты. Насупраць прышпнку сем хат, мая ўсярэдзіне. Як будзеце ехаць міма, заязджайце да мяне ўгосці, буду рады вас спаткаць.

Нашы вёскі, Зарэчча і Нарбуты, — гэта ўжо Ашмянскі раён. У мяне ёсць і дзеці, часам мяне наведваюць, але яны жывуць у Смаргоні. Там жыве дачка Аня і сын Стась. Яны маюць свае сем'і. Я ўжо не трымаю ніякай жывёліны, толькі маю некалькі курак. Люблю працаваць, каля хаты маю агарод, летам у мяне шмат кветак. Жонка памерла. Вось ужо будзе два гады. Цяжкае старэчае жыццё адзінокага чалавека.

Вось не ведаю, чаму гэта ў нашым раёне горш жыць і цяжэй, чым у іншых раёнах. Тут усё даражэй, некаторыя пакідаюць Ашмяны і едуць кудынебудзь у іншае месца, я ведаю такіх, што выехалі ўжо ў Смаргоні. Ды і ў вашай газеце перадсвяточнай чытаю, як плануецца жыццё ў новым годзе ва ўсіх раёнах. Вам адказалі рукавадзіцелі гэтых раёнаў. І як вам адказаў наш ашмянскі, самы галоўны, — больш да яго не будзеце звяртацца. Ён яшчэ ўсё гоніць пад савецкі лад. Што самае горшае, дык гэта хаця б і хлеб – і горшы, чым у іншых раёнах, і даражэйшы.

Вось я раскажу яшчэ пра сябе. Гэта было ў ліпені. Спачатку я цяжка захварэў. Выклікалі «хуткую дапамогу» – прыязджалі. Тэмпература 42, даўленне высокае, трасе траска. Доктар дала ўкол, крыху палепшала, але потым ізноў мяне адкінула, ізноў вызвалі «хуткую» – паўтарылася тое самае. І сказалі, што такіх ужо ў бальніцу не бяруць – памірай дома. Ляжу дома тры дні, нічога не ем, ужо ўстаць з ложка сам не мог. Прыехаў сын і завёз мяне ў бальніцу ў Смаргоні.

Прабыў там два тыдні і вярнуўся дадому амаль здаровы. Другі раз захварэў у лістападзе. Тым разам адабрала мне ўвесь правы бок. Не магу варушыць ні рукою, ні нагою правай, і пад лапаткай, і пад рэбрамі несцярпімы боль не даваў мне дыхаць. Ізноў выклікалі «хуткую». І зноў тая самая песня: памірай дома – старых не лечым. Так я не супраць ужо смерці – прашу, каб далі мне якую таблетку ці ўкол, каб не мучацца, я ўжо гатоў памерці.

І зноў мяне сын завёз у Смаргоні. Тут чамусьці адразу сталі лячыць і зноў трапіў я ў тое ж кардыялагічнае аддзяленне і лячыла мяне тая самая доктар, завуць яе Алена Іванаўна, прозвішча Саўко. Што за цудоўная жанчына! Яна толькі датклецца да хворага – ужо становіцца лягчэй. Яна ўмее кожнаму ўгаварыць здароўе.

Мілая, харошая Аленачка! Які ж табе вялікі дзякуй, што ты такая ёсць.Вось я хацеў бы, каб вы ў нашай "Рэгіянальнай" напісалі маю падзяку, бо газету ў бальніцы ў Смаргоні чытаюць усе, і ў дзяжурнай сястры пры ўваходзе ў бальніцу можна яе пастаянна купіць.

Можна было б і больш напісаць на гэтую тэму, але толькі не ведаю, як вам усё гэта падабаецца. Напішыце мне – я гатовы з вамі супрацоўнічаць.

На першы раз хопіць. Дзякую вам, што вы ёсць. Нейкія вы патрэбныя і ўсе такія свае. Няхай вам Бог дае здароўе!

**Пакуль я з вамі, Юзэф ГРЫНЧУК.**

■ ГУЧНАЯ СПРАВА

# Гадзіннік Міхаіла Каламійца

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні тут пабывалі ўкраінскія журналісты. Яны хочуць разабрацца ў прычынах смерці ўкраінскага медыябізнесмена і журналіста Міхаіла Каламійца.**

Кіраўнік групы, а таксама лігі эканамічных журналістаў, куды ўсе яны ўваходзяць, — Аляксей Кірычэнка. Ён паўгода працаваў разам з М.Каламійцам у Кіеве. Адзін з візіцёраў размаўляў за гадзіну да таго, як Міхаіл сеў на цягнік Кіеў-Мінск і прыехаў сюды...

Тры дні і дзве ночы ён жыў на 8-м паверсе гасцініцы. Нумар сабе ўзяў 2-месны, але не працаваў тэлевізар. І тады Міхаіл памяняў нумар на такі самы, толькі са спраўным тэлевізарам. Кожны дзень прадаўжаў пражыванне ў гасцініцы. Асабістых рэчаў было небагата – 1 сумка. Потым яна ўвогуле знікла.

Цела Міхаіла Каламійца 30 кастрычніка мінулага года знайшлі ў лесе павешаным. Дрэва было крывое, сукі нахілены да зямлі. Гэта падштурхоўвае да думкі, што, можа, ён паконччыў жыццё самагубствам. Але побач не было ніякай калоды, на якую ён мог бы ўзлезці. Ногі былі ў метры ад зямлі. Апрануты залёгка для позняй восені: спартыўны касцюм і белыя красоўкі. Пры ім былі гадзіннік, кашалёк з дробнымі грашыма, запальнічка.

Пахавалі Міхаіла Каламійца без адзення. Толькі на руцэ застаўся дарагі гадзіннік. Ніякіх адбіткаў пальцаў з адзення, цела Міхаіла не здымалі. Гэта зрабілі потым, як даведаліся, хто ён такі. Але было ўжо позна, нічога не распазнаць. Пры ўскрыцці цела выявілі, што ў страўніку ежы не было.

Калі труп эксгумiравалі, час на гадзінніку адрозніваўся ад сапраўднага на гадзіну. Магчыма, была зроблена памылка перад пахаваннем: у дакументах на гадзінніку быў зафіксаваны дакладны час.

Кіраўнік украінскай журналісцкай групы Аляксей Кірычэнка гаворыць, што добра ведаў М.Каламійца. І на яго такое не падобнае. Відавочных ворагаў у Міхаіла не было. За год да смерці А.Кірычэнка са слоў жонкі М.Каламійца ведае, што яму пагражалі. Але па якой прычыне і хто гэта рабіў – не. Ад маладой знаёмай Міхаіла чуў, што ён хоча пакончыць жыццё самагубствам.

Цела Міхаіла Каламійца перапахавалі на ягонай радзіме. Справай займаецца Украінская пракуратура.

Украінскія журналісты размаўлялі за закрытымі дзвярыма з маладзечанскім міжраённым пракурорам Генадзем Вештартам. Гутарка доўжылася больш за 2 гадзіны. Схадзілі ў судова-медыцынскую экспертызу. Знялі кадры з морга. Ніхто ў размове ім не адмовіў.

На жаль, у мінулым нумары памылкова была змешчана інфармацыя аб прыбыцці ў Маладзечна групы з пракуратуры Кіева. На самой справе візіт работнікаў пракуратуры толькі планаваўся.

**Ірына РАБУШКА.**



**Міхаіл Каламіец.**
**Загінуў у кастрычніку 2002 года. Некалькі дзён пражыў у Маладзечне.**

**Шукаем інфармацыю за ўзнагароду. Звяртайцеся па тэл.: 8-10-38-050-351-81-41, 8-10-38-050-328-98-51 або ў «Рэгіянальную газету» па тэл. 8-01773-50-799. e-mail: oleksiyk@ukr.net**

■ СМІ

## Газеце пагражае закрыццё

У панядзелак гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці прыняў рашэнне спыніць прадпрымальніцкую дзейнасць заснавальніка «Новай газеты Смаргоні» Рамуальда Улана. Гэта можа прывесці да прыпынення выхаду выдання.

Каментуючы рашэнне суда, віцэ-прэзідэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец адзначыў, што яно супярэчыць прынцыпам права і стварае вельмі небяспечны прэцэдэнт, які развязвае рукі мясцовай уладзе.

Канфлікт паміж Смаргонскім райвыканкомам, іск якога задаволіў Гродзенскі суд, і заснавальнікам газеты ўзнік пасля таго, як на працягу апошніх двух год Улан беззвынікова спрабаваў зарэгістраваць два новыя выданні — «Новую газету Островца» і «Новую газету Ошмян». Смаргонскі райвыканкам двойчы адмовіўся ўзгадніць размяшчэнне рэдакцый гэтых газет. Гэта зрабіла немагчымым іх рэгістрацыю. У снежні 2001 года і маі 2002 гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці прызнаў гэтыя адмовы няправільнымі. Аднак і пасля гэтага звароты прадпрымальніка ў райвыканком не прынеслі плёну. У лістападзе 2002 г., падчас чарговага судовага разгляду канфлікту, Смаргонскі райвыканком ініцыяваў сустрэчны іск аб спыненні дзейнасці індывідуальнага прадпрымальніка. У якасці абгрунтавання заявы былі названыя парушэнні падатковага заканадаўства ў 2000 і 2002 г., два папярэджанні пракуратуры ў 2000 г., а таксама парушэнні заканадаўства аб ахове працы і норм пажарнай бяспекі ў 2002 годзе.

Рамуальд Улан мае намер абскардзіць вынесены прысуд у касацыйным парадку.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ВЫБАРЫ

## Выбары па-беларуску

Рада Таварыства беларускай мовы ў сувязі з выбарамі ў мясцовыя саветы звярнулася да кандыдатаў у дэпутаты і выбаршчыкаў.

"Паважаныя сябры! – гаворыцца ў звароце да кандыдатаў. – Напярэдзе ў нас нялёгкая перадвыбарчая кампанія. Нашы людзі зняверыліся ў сваіх лепшых надзеях, шмат хто наогул не збіраецца ісці на выбары і спадзяецца толькі на самога сябе. Тым не меней, пад ляжачы камень вада не цячэ, і таму мы звяртаемся да вас з прапановай браць удзел у выбарчай кампаніі па-беларуску, з пачуццём нацыянальнай годнасці.

Звяртайцеся да выбаршчыкаў на роднай беларускай мове, уключайце ў свае прадвыбарчыя платформы пункты аб адкрыцці ў вашай мясцовасці беларускамоўных класаў, школ, гімназій, студэнцкіх груп і плыняў, афармiце па-беларуску свае ўлёткі, лозунгі і плакаты – і вы адразу адчуеце падтрымку тых, каму баліць душа за стан нашай мовы і культуры, хто хоча жыць у заможнай еўрапейскай дэмакратычнай краіне."

У звароце да выбаршчыкаў рады ТБМ гаворыцца, што падчас агітацыйнай кампаніі, акрамя іншага, варта звяртаць увагу і на тое, наколькі кандыдат у дэпутаты адстойвае нацыянальныя інтарэсы сваёй краіны, як ставіцца да роднай культуры і мовы – асноўных чыннікаў нацыі і незалежнай дзяржавы.

"Таварыства беларускай мовы заклікае падтрымаць тых кандыдатаў, якія ведаюць і шануюць беларускую мову, карыстаюцца ёю і спрыяюць яе пашырэнню. Менавіта ад гэтага залежыць, наколькі ён будзе бараніць інтарэсы народа – носьбіта духоўнага скарбу, інтарэсы незалежнай дзяржавы Рэспубліка Беларусь".

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Тамара Піліпенка



Калектыў школы-інтэрната №2 г. Маладзечна для дзяцей з парушэннямі зроку панёс непапраўную страту: пайшоў з жыцця цудоўны чалавек, творчы работнік, душэўны дарадчык і блізкі сябар дзяцей, мудры педагог — настаўніца рускай мовы і літаратуры Тамара Леанідаўна Піліпенка.

Тамара Леанідаўна Піліпенка нарадзілася 22 жніўня 1944 года ў в. Лукавец Вілейскага раёна Мінскай вобласці.

Сваю працоўную дзейнасць пачала ў 1964 годзе мантажніцай на Маладзечанскім прыборабудаўнічым заводзе. У 1966 годзе перавялася на Маладзечанскі механічны завод "Спадарожнік". Адначасова завочна вучылася на філфаку БДУ імя У.І.Леніна, які закончыла ў 1970 годзе.

У 1970 годзе пачала працаваць старэйшай піянерважатай у СШ №3. У 1973 годзе прызначана завучам пазакласнай і пазашкольнай работы СШ №3 і працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры.

У 1977 годзе пераведзена намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце спецшколы-інтэрната №2 для дзяцей з парушэннямі зроку.

У 1982 годзе закончыла Ленінградскі дзяржаўны педінстытут імя Герцэна па спецыяльнасці тыфлапедагога.

У 1984 годзе пераведзена настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў гэтай жа школе па ўласным жаданні.

У 1991 годзе прысвоена вышэйшая кваліфікацыйная катэгорыя і званне "Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь".

Тамара Леанідаўна ўсю сябе аддала сваёй працы і памерла, можна сказаць, на вахце каля школьнай дошкі.

Яна працавала сумленна, не патрабавала пашаны і славы, урокі праводзіла на высокім педагагічным узроўні.

Тамара Леанідаўна ўмела радавацца поспехам сваіх вучняў і калег, умела падтрымаць у цяжкую хвіліну, быць чулай, спагадлівай і сардэчнай. Да яе пастаянна звярталіся за дапамогай, метадычнымі рэкамендацыямі. На працягу 22 год была кіраўніком метадычнага аб'яднання ў школе-інтэрнаце.

Тамара Леанідаўна выхавала сына і дачку, дапамагла атрымаць ім адукацыю і адправіла ў самастойнае жыццё.

Усім нам запомняцца яе казачныя, непаўторныя ўрокі, добрыя, мудрыя, цёплыя словы.

У нашых сэрцах і душах застанецца светлая памяць аб Тамары Леанідаўне Піліпенка, добрым чалавеку, таленавітым педагогу, жыццё якой згасла імгненна 28 студзеня 2003 года.

Вечная памяць Вам, дарагая Тамара Леанідаўна, і царства нябеснае.

**Работнікі і навучэнцы школы- інтэрната №2**

Калектыў рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" выказвае шчырае спачуванне Сяргею Гайковічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бабулі.

# Паскрэбачак — малодшай дачцэ

Мая мама Фаіна Іосіфаўна Драгун — малодшая сярод шасці сясцёр. У народзе апошняе дзіця называюць паскрэбачкам. А нядаўна я даведалася ад маці аб яшчэ адным значэнні гэтага слова. Так у іх сям'і называлі рэшткі цеста, якія заставаліся пасля выпечкі хлеба. О, як чакала малая Фаінка таго моманту, калі яе матуля Надзея выкладзе на вялізную драўляную лапату апошнюю булку і скажа: «Ну, сёння, дачушка, тваё шчасце. Будзе і табе маленькі хлябок».

Больш паўвека прайшло. Даўно ўжо назаўсёды развіталіся мы з бабуляй Надзяй, дзедам Іосіфам, якія ў вялікім каханні і згодзе жылі на беразе Вішнеўскага возера, што ў Смаргонскім раёне. Каля сарака год назад мая мама пасля заканчэння педінстытута прыехала настаўнічаць ў невялікую вёсачку Няровы, што на Валожыншчыне, выйшла замуж, прыжылася сярод мясцовага люду.

Кожны раз еду да бацькоў і вязу з горада найлепшы для іх гасцінец — некалькі булак свежага маладзечанскага хлеба. Валожынцы не навучыліся пакуль свой смачна пячы. І часта, прыціскаючы да грудзей мяккі, падаўкі бохан, матуля ўспамінае, які хлеб пякла бабуля Надзя. Не па святах, як гэта здараецца яшчэ і цяпер у беларускай глыбінцы, а кожны тыдзень, з месяца ў месяц, з году ў год. «Свой хлеб — гэта навек, — гаворыць мама. — Я і цяпер памятаю яго пах. Нічога смачнейшага за яго няма на свеце».

Мне, на вялікі жаль, не давялося яго есці. І толькі адна ўцеха гэтаму — лагодны матулін голас, нетаропкі яе расповед аб тым, як адбывалася гэта свяшчэннае дзейства ў іх хаце. Дзіцячыя ўспаміны, а якія яркія, якія ўражваючыя...

— Увосень у нас, дзяцей, быў клопат — нарыхтаваць кляновых лістоў для выпечкі хлеба. Бралі з сабой у школу доўгія, метры ў паўтара-два, скручаныя драціны, а па дарозе дадому навыперадкі бегалі па клённіку і нанізвалі на іх лісты. Клённік цягнецца ад нашай вёскі Краснаазёрная (усім нам мілей яе колішняя назва — Пасекі) у бок Вішнева на некалькі кіламетраў. Ён раскінуўся паабапал бальшака, які ў нас Кацярынінскім называлі. Казалі старажылы, што пасадзілі гэтыя клёны ў знак таго, што Кацярына II тут праязджала. А ці было гэта сапраўды так, не ведаю.

Лісты мы стараліся выбіраць прыгожыя — жоўтыя, барвовыя, нанізвалі іх шчыльненька. На канцы дроту рабілі пятлю, і падвешвалі гэтыя вянкі ў сенях, за дзвярыма. Лісты скручваліся, перад выпечкай хлеба мама аблівала іх кіпенем, каб разраўняліся. Такі прыемны пах ішоў! Гэта быў мой абавязак: спраўна разаслаць на лапаце лісцікі перад тым, як мама выкладзе туды цеста для чарговага бохана. Пакласці трэба было не адваротным, а добрым бокам да хлеба. А калі кляновікаў не хапала, ішлі ў ход капусныя лісты, ці сярод лета мячэўнік з возера раскідвалі па лапаце. Я на мячэўніку хлябок найлепш любіла. Ён у булку глыбока не ўпіваўся, так як кляновыя лісты.

Пякла мама хлеб не ў нейкі ўстаноўлены дзень тыдня, а па патрэбе, як заканчвалася апошняя булка. Мука ў нашай сям'і заўсёды была свая. Жыта сеялі нямала, пэўна што некалькі гектараў. Драгуны адносіліся да рэдкіх сем'яў, у якіх жыта заўсёды хапала да новага ўраджаю: бацька быў спраўным земляробам, дбайным гаспадаром. Разам з братамі Навумам і Іванам яны раскарчоўвалі лес, адваёўвалі ў яго зямлю. Туліліся іх тры сям'і спачатку ў адной хаце, а калі разжыліся, падзяліліся. Мой бацька меў сем з паловай гектараў зямлі: не толькі ворнай, але і сенажаць, і нават свой лясок на тым беразе возера. Уяві: усё гэта аддаць дзяржаве! У калгас уступіў адным з першых. Усведамляў, што іншага выйсця няма. Бацька плакаў, але мы яго слёз не бачылі. Хадзіў штодня ў калгасную канюшню карміць свайго коніка...І казаў, што ўдзячны Савецкай уладзе за тое, што змог вывучыць усіх сваіх шасцярых дачок, пяць з якіх працавалі настаўніцамі, адна — архітэктарам...

Жалі жыта сваёй вялікай сям'ёй, пераважна сярпамі, іншы раз касілі косамі. Малацілі цапамі, пазней наймалі малатарню. Абмалочанае жыта захоўвалі ў клеці — моцнай, адмысловай будыніне, маім, між іншым, пасагу...

Дзень напярэдадні выпечкі быў напоўнены турботамі, бо расчыняўся ж хлеб нанач. Даставала мама сваю вялізную, на вёдзер пяць-шэсць, дзяжу. Яна ўтрымлівалася ў адмысловай чысціні, была прыкрыта абрусом, які ў нашай мясцовасці называлі махрачом. Я нядаўна чытала, што дрожджавое цеста шкоднае для здароўя. Дык вось: у нас дражджамі ніхто не карыстаўся. Пакідалі ад мінулай выпечкі, ад таго самага паскрэбка закваску, якая пасыпалася мукой і пакідалася на тыдзень «жыць» у дзяжы.

Мука, цёплая вада, соль, закваска — вось і ўвесь рэцэпт. Яшчэ маці сыпала жменьку кмену, а як з'явілася мясарубка, прапускала праз яе і дабаўляла ў цеста свежую бульбу. Дзяжу ставіла не на печ, а на пяколак — першую прыступку. Там яно закісала.

У хлебны дзень уставала матулечка рана. Завязвала чыстую хусціну, адзявала фартух. І, закасаўшы рукавы, паступова падсыпаючы муку, мяшала. Замес займаў нямала часу. Ад яго залежалі і пульхнасць, і смак. Усё на вока, кожны рух — выверяны. Мо' з гадзіну мясіла. Апошні штрых — загладжвала цеста, а затым ставіла на ім адмецiны аж да дна дзежкі — чатыры кулакі. Гэта для таго, каб бачыць, як цеста, пастаўленае ўжо на печ, расце. Як гатова, як падыдзе пад верх дзяжы — адмецiны ледзь бачныя.



Яны пяклі хлеб. Надзея Іванаўна Драгун з дачкой Валянцінай. Фота з сямейнага альбома Анжалікі КРУПЯНЬКОВАЙ.

Да гэтага часу печ ужо выпалена бярозавымі дрывамі, яда згатавана. Тушанкі, усялякія пахучыя стравы маці ў гэты дзень не варыла, печ напальвалася менавіта пад хлеб. І вось яна ўжо гатова прыняць яго. Папялок беленькі, у нішкі на прыпечку, якія мы звалі ямкамі, выграбаюцца вугельчыкі (яны яшчэ могуць саслужыць сваю службу: калі хлеб у час не румяніцца, маці карысталася імі, бывала, што і трэсачкі ў іх падкідвала), памялом, зробленым з сасны, вымятаецца донца печы дачыста. Маці пырскае вадой, правярае гатоўнасць, прыслухоўваецца, як шыпяць столь, дно печы.

На спецыяльным услончыку каля стала ставілася дзяжа. Непадалёк — лаўка, на якую зручна класці лапату з доўгай ручкай. Я — у «галаве» лапаты, выкладаю лісточкі. Навошта лісты, пытаешся. Па-першае, для эканоміі, каб мукі шмат не падсыпаць на лапату. А па другое, хлеб жа маці садзіла на голую печ, у формах мы яго ніколі не пяклі.

Булкі маці фарміравала вялікія, кілаграмы па два, калі не болей. Паклаўшы на лапату, выгладжвала кожную, лашчыла сваімі чуйнымі рукамі, а ў канцы змочвала вадзіцай. Пяць булак атрымлівалася, можа, шэсць які раз. Па адной садзіла іх у печ, а выпякала ўсе адразу. Кожную падціскала з бакоў, ставіла свае адмецiны. А на першай абавязкова — крыж. Слоў пры гэтым ніякіх не казала. Але ж думкі, пэўна, былі. Хлеб — гэта святое, надта неабходнае. Трэба, каб ён удаўся, каб не змарнаваўся. Ёсць жа такая прымаўка:

*У гаспадыні хлеб удаўся,*
*Пад скарынкай кот схаваўся...*

У нашай хаце такога ніколі не было...

Булку за булкай адпраўляла матуля ў печ. Пот з яе цёк цуралём — цяжкая праца. Самае ж галоўнае, каб, пакуль зачыніць засланку, хлеб быў у сваёй кандыцыі. А потым маці засланку прыкрывала, а ў канцы закрывала зусім. Можа, гадзіны паўтары трэба было каля печы выстаяць...

А водар ужо не толькі ў хаце, але і ў двары. Гатовыя булкі выкладалі на махрач, абавязкова абмазвалі іх вадой, прыкрывалі махрачом і зверху, каб у сваім духу даходзіў.

Свежы хлеб не дазвалялася рэзаць. Не памятаю, каб нехта з дзяцей схапіў булку. Такое выключалася, бо есці ўсе былі прывучаны ў адпаведны час. Звычайна хлеб наразаў бацька: нетаропка, прыціснуўшы велізарную булку да грудзей. Я і цяпер не магу глядзець, як нехта ў спешцы абы як крамсае бохан, здаецца, мяне па жывому рэжуць. А захоўвалі хлеб у сенях, каля жорнаў. Праз тыдзень прычарсцвее, але ж які смачны! Можа, нават смачнейшы за свежы.

А яшчэ памятаю «зайцаў» хлеб. Бацька працаваў ў арцелі, матуля загортвала яму з сабой абед. Бывае, прывязе вечарам, у мароз лусту хлеба. Мерзлы, апетытны. А бацька яшчэ падыграе: «Ешце, ешце, зайцаў хлеб!»

І мне маці ў школу лусту давала. А з багацейшых сем'яў дзеці і белы, сітны прыносілі. Мне так хацелася паспрабаваць. Яны ж з ахвотай мянялі: ім усім хацелася нашага, чорнага. Мы, дзеці, вельмі не любілі, як нехта з суседзяў прыходзіў да нас пазычаць хлеб. Не шкадавалі, не. Проста ведалі, што наш — найсмачнейшы, што такога ў вёсцы больш няма.

У пасляваенныя часы штодня ў нашу хату заходзілі жабракі. Магло ў дзень і пяць, і больш наведацца. Ніводнага маці не адпусціла, не накарміўшы, і не працягнуўшы ў дарогу лусту хлеба. Якая шчодрасць, якая дабрыня...

Пытаешся, калі пячы хлеб перасталі. Як калгасы стварылі, як па 30 сотак на сям'ю выдзелілі. Толькі бульбу на іх садзілі, жыта сеяць ужо не было дзе. Памятаю, як з нашай вёскі людзі за 18 кіламетраў ездзілі ў Свір, ноччу займалі чаргу, каб купіць булку...

Вось такая «хлебная эпапея»... Маці расказвае, што і на Валожыншчыне ёй прыходзілася спрабаваць самапечаны хлеб. Вельмі нямногія гаспадыні бяруцца цяпер за гэтую справу. У нашай вёсцы доўгі час не пераходзілі на магазінны хлеб Бражаловічы, у суседнім Адамове і цяпер славяцца сваёй выпечкай Ніна Гутар, Данута Казакевіч. Аднойчы дзяцей з фальклорнага гурта «Крынічка», якім кіравала мая мама, запрасілі зняцца на Беларускім тэлебачанні. Яны не толькі спявалі, але і частаваліся хлебам, што спякла вядомая на ўсю краіну брыгадзірка-палявод з Подберазі Зоя Задора. Яна выняла з печы свежы бохан, паставіла на стол місачку з маслам. Як уплят алі дзеці нязведаныя раней прысмакі! І якія былі шчаслівыя: яны паспрабавалі самапечаны хлеб. Я ўпэўнена: яго смак ім не забыць ніколі.

**Анжаліка КРУПЯНЬКОВА,**
**«Куфэрак Віленшчыны», №7.**

# Парады літоўскай гаспадыні

**У 1948 годзе ў Вільні выйшла кніга "Gospodyni litewska", дзе даваліся парады на ўсе выпадкі жыцця. У 1993 годзе кніга перавыдадзеная ў Мінску на беларускай мове. У кнізе сярод іншага былі парады аб выпечцы хлеба. Рэцэпты паходзяць з Віленшчыны, часткай якой – наш край. І вытрымкі з рэцэпта, які мы падаем сёння, могуць быць знаёмыя тым з нашых чытачоў, якія памятаюць яшчэ пах цёплага хлеба.**

**Пасля таго як хлеб пасадзяць, неабходна зачыніць усе прадушыны, каб не выдалялася вільгаць. Нельга дакладна вызначыць, колькі часу трэба выпякаць яго. Больш буйныя булкі павінны знаходзіцца ў печы даўжэй, чым невялікія. Напрыклад, бохан вагой у дванаццаць фунтаў трэба трымаць ад дзвюх з паловай да трох гадзін, а для булкі ў адзін фунт дастаткова трох чвэрцяў гадзіны.**

**Каб упэўніцца, ці спёкся хлеб, стукаюць сярэднімі суставамі пальцаў у ніжнюю скарынку. Гатовы гучыць. Альбо як булка, прыкладзеная да носа, не пячэ, значыць, вільгаць з яе ўжо выпарылася.**

**Выняты з печы хлеб зноў абліваюць халоднай вадой і на хвіліну засоўваюць назад. Гэта надае яму жывы колер і глянец. Гарачыя буханкі нельга кідаць, стукаць, націскаць. Іх кладуць адным канцом на стол, а іншым абапіраюць на больш высокую дошку, каб роўна астылі і зверху, і знізу. Пакуль яны цалкам не ахалодаюць, іх не выносяць у месцы залішне халодныя ці вільготныя. Свежыя, толькі што з печы, булкі не варта класці ў пакоі, дзе жывуць людзі, а тым больш спяць, бо выпарэнні з гарачага хлеба не на карысць чалавеку. Есці яго яшчэ цёплы таксама вельмі шкодна для здароўя.**

**Хто хоча мець хлеб бялейшы, той мусіць скарыстоўваць жыта не перапелае, гэта значыць, тое, што называюць зеленаватым. Добра яшчэ, каб яно было вырашчана на баравых і лёгкіх глебах, а не на густых і глiністых. Прамываць зерне лепш за ўсё восенню ў сухія і ясныя дні, а потым захоўваць у бочках ці кадках, старанна высушаных, бо мытае зімой, яно часта перасалоджваецца, пакольки хутка высахнуць у памяшканнях не можа. Перад размолам зерне ашатроўваюць.**

■ АЎТАЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# ВАЗ–21099

**Гэтая мадэль, па сутнасці, "дзевятка" з чатырохдзверным кузавам седан. Тут нічога новага не было вынайдзена. Толькі рэклама "Аўтаэкспарта" сцвярджала, наколькі гэтая мадыфікацыя ВАЗ–2109 з падоўжаным на 200 мм задам адрозніваецца ад папярэдніх мадэляў "Самар". На экспартных рынках мадэль называлі Samara Forma. Але гэты тып кузава на прасторах СССР, а затым СНД, настолькі любімы і лічыцца прэстыжным, што "дзевяноста дзевятая" трывала займала месца самай "крутой" расійскай легкавушкі, пакуль яе не сталі выціскаць ВАЗ–2110, а на рынку – іншамаркі.**



ВАЗ-21099 – адзін з самых элегантных прадстаўнікоў роду «Жыгулёў». Фота з архіва "РГ".

Але ВАЗ 21099 па-ранейшым каціруецца на рынку як адна з найбольш прэстыжных айчынных мадэляў і цяпер ужо прывычны і практычны аўтамабіль. Дастаткова сказаць, што на гэтым, у прынцыпе, гарадскім седане усё ж можна рэгулярна выязджаць на дачу. Але у многім падобны на пяцідзверны хэтчбек ВАЗ–2109 усё ж больш "строгі" і афіцыйны.

Тым не менш машыну не адразу сталі камплектаваць панэллю прыбораў з тахометрам і маршрутным камп'ютэрам. Імі абустройвалі да сярэдзіны 90–х толькі аўтамабілі ў выкананні "Люкс".

Ужо першапачаткова высокая для расійскай малалітражкі цана намякае на тое, што аўтамабіль не прызначаны для перавозкі тавару на рынак. Затое для прадстаўнікоў "сярэдняга класа" "дзевяноста дзевятая" – проста цудоўны варыянт. Аўтамабіль дастаткова прадстаўнічы, універсальны (спінка задняга сядзення хай і не па частках, але адкідваецца, каб загрузіць доўгія рэчы).

Аднак, калі вы паклалі вока менавіта на такую мадэль, будзьце гатовыя пераплаціць! Калі прадавец малады, а яго "тачка" аблепленая наклейкамі і начыненая "цацкамі", нібы вітрына міні–маркета, то лепш ацаніць не столькі узрост і прабег, колькі яе магчымае крымінальнае мінулае. Гэтая мадэль доўгі час была ў лідэрах па ўгонах.

Сярод усіх версій рухавікоў найбольш эфектыўны 1,5-літровы 70-сільны карбюратарны, добра прыдатны да рамонту. Аднак усё яшчэ вялікай папулярнасцю з-за распаўсюджанасці на ВАЗ-2108 і ВАЗ-2109 карыстаецца 1,3-літровы 64-сільны карбюратарны рухавік. Адзіны яго недахоп – верагоднасць пагнуць клапаны пры абрыве рэменя размеркавальнага вала. Сустракаюцца таксама новамодныя сістэмы ўпрыску паліва.

"Вострае" рулявое, вельмі характэрнае для ўсіх аўтамабіляў першага пярэднепрыводнага пакалення ВАЗ на "дзевяноста дзевятай" размываецца "валкасцю" падоўжанага седана. Жорсткая падвеска не горш і не лепш чым у многіх іншамарак.

Паводле auto.ru

### Тэхнічныя характарыстыкі

| | |
|---|---|
| Габарытныя памеры, мм | |
| даўжыня | 4205 |
| шырыня | 1620 |
| вышыня | 1400 |
| Колавая база, мм | 2460 |
| Маса снаражанага аўтамабіля, кг | 970 |
| Поўная маса, кг | 1395 |
| Каляіна пярэдніх/задніх колаў, мм | 1400/1370 |
| Вядучыя колы | пярэднія |
| Рухавік | 2111 |
| Рабочы аб'ём рухавіка, куб.см | 1499 |
| Максімальная магутнасць, кВт (пры аб/мін) | 57,2 (5400) |
| Максімальны момант кручэння, Нм (пры аб/мін) | 115,7(3000) |
| Сістэма сілкавання | Размеркаваны ўпрыск |
| Колькасць перадач у КП | 5 |
| Перадатачны лік галоўнай пары | 3,7 або 3,9 |
| Максімальная хуткасць, км/г | 160 |
| Час разгону з месца да 100км/г, с | 14 |
| Расход паліва, л/100 км: | |
| гарадскі рух | 10 |
| загарадні рух | 5,7 |
| змешаны | 7,3 |
| Памер шын | 165/70R13 або 175/70R13 |
| Нормы таксічнасці | R83 |

## Зімовыя хітрыкі

**Гразь ляціць з–пад колаў нават у мароз. Усе аўтамабілі сталі аднаго колеру з дарогай, і калі вы не хочаце быць невідзімкай, уключайце бліжняе святло фар нават удзень. Гэта прыцягне ўвагу. Вас будзе бачна нават праз заляпанае бакавое люстэрка. У такія дні хочацца часам праехаць на чысценькім аўтамабілі, і мы едзем на мыйку. Радасць ад позірку на бліскучыя бакі любімцы можа памеркнуць на наступную раніцу, калі прамокшыя гумовыя ўшчыльняльнікі дзвярэй наадрэз адмовяцца адчыняцца. ХІТРЫКІ: пасля мыйкі аўтамабіля пратрыце ўшчыльняльнікі дзвярэй кавалачкам анучкі, злёгку змочанай у тасоле.**

**Прамерзшыя тармазныя калодкі таксама могуць сапсаваць вам настрой. Добрая прывычка пакідаць аўтамабіль на ручніку зімой можа падвесці. За ноч тармазныя калодкі, прыціснутыя да тармазных барабанаў і змочаныя дарожнай слотай, так прымярзаюць, што прыйдзецца прыбегнуць да грубай фізічнай сілы (напрыклад, на заднепрыводных аўто – рэзка "кідаць" педаль счаплення пры ўключанай перадачы, што можа прывесці да паломак дэталяў трансмісіі). А на васьмёркі і дзевяткі ўвогуле сумна глядзець – так і выязджаюць з двара толькі на пярэдніх колах (задняя – юзам) у пошуках лепшага каэфіцыента счаплення. Выснова: зімой аўтамабіль на ручнік лепш не ставіць.**

**Ніколі не разбаўляйце вадкасць для амывання шкла, нават калі на ўпакоўцы стаяць лічбы, якія ўказваюць на тое, што вадкасць не замерзне нават пры 50 градусах. Дабаўленне ў гэтую вадкасць нават невялікай колькасці вады вядзе да амаль поўнай страты марозаўстойлівых уласцівасцяў і замярзання гэтай вадкасці ў трубках і фарсунках амывальнікаў.**

**Ледзяныя накатаныя дарожкі ў нашых дварах часам становяцца сур'ёзнай перашкодай для аўтамабіля, асабліва калі даводзіцца кратацца з невялікай ямчыны. Адно кола паліруе і без таго слізкую дарожку, другое – нават не падае прыкмет жыцця: у выніку аўтамабіль стаіць на месцы. ХІТРЫКІ: калі няма каму падпіхнуць, можна паспрабаваць такі прыём. НЕ МОЦНА (!) выцягніце рычаг ручніка. Не ўнікаючы ў тэхнічныя падрабязнасці, скажу – другое кола пачне круціцца і кране машыну з месца. Такі трук можна скарыстаць толькі на аўтамабілях з заднім прыводам. На пярэднепрыводных гэта не атрымаецца.**

## Асноўныя няспраўнасці дызеляў легкавых аўтамабіляў

### Прагарына сценкі галоўкі з-за няспраўнасці паліўнаўпрыскавальнай апаратуры

Рухавікі Mitsubishi аб'ёмам 1,8, 2,3 і 2,5 л маюць балансірныя валы, якія круцяцца з падвоенай частатой для зніжэння сіл інерцыі другога парадку. А гэта патрабуе вельмі кваліфікаванага рамонту і сур'ёзнага станочнага абсталявання.

Карэйскія дызелі вядуць сваё паходжанне ад японскіх, таму да іх у поўнай ступені адносіцца ўсё вышэйзгаданае.

Амерыканскія дызелі можна ахарактарызаваць коратка: механіка гэтых васьміцыліндровых монстраў надзейная, паліўная апаратура, як правіла, фірмы Stanadune выкананая на добрым узроўні. Аднак на сучасных рухавіках сталі ўсталёўваць электроннае кіраванне паліваладачай, надзейнасць якога не вельмі высокая. Рэзюме такое – калі вы вырашылі набыць амерыканскі дызельны джып ці міні-вэн, то рыхтуйцеся да праблем з рамонтам, непрадбачаных расходаў і чакання запасных частак.

### Некваліфікаванае абслугоўванне і няправільная эксплуатацыя

Першая і самая галоўная прычына ўсіх бед – невыкананне рэгламенту эксплуатацыі. Масла рэкамендуецца мяняць праз 7500 км незалежна ад таго, якая перыядычнасць указана ў інструкцыі. Гэта абумоўлена павышаным утрыманнем серы ў расійскім дызпаліве, што прыводзіць да хуткага акіслення масла. Якасць масла павінная адпавядаць патрабаванням інструкцыі. Ніякіх прамывак сістэмы змазкі пры выкананні гэтых умоў не патрабуецца.

### Дэфект распыляльніка прывёў да прагарыны поршня

Зубчасты рэмень прыводу ГРМ і ППВЦ трэба мяняць не радзей чым праз 60 тыс. км пры умове адсутнасці на ім масла. Калі ж масла ўсё-такі трапіла на рэмень, цечу трэба неадкладна ўхіліць. Неабходна ўважліва сачыць за паліўнай сістэмай, напрыклад, перыядычна адкручваць зліўную гайку і зліваць адстойнік з паліўнага фільтра. Паліўны бак рэкамендуецца прамываць 2 разы на год, вясной і восенню, пры гэтым яго трэба здымаць поўнасцю. У актуальнасці такой працэдуры кожны можа ўпэўніцца самастойна, убачыўшы, колькі бруду выльецца з бака.

Другая прычына, якая прыводзіць да пашкоджання дызеля, — гэта спроба запусціць яго як бы там ні было ў выпадку, калі ён запусціцца не можа. Так, калі ў баку летняя салярка, а на вуліцы –10 градусаў, спроба пуску бессэнсоўная: пры –5 градусах ужо выпадаюць парафіны і паліва страчвае цякучасць. Дэталі паліўнай апаратуры, як вядома, змазваюцца палівам, і яго адсутнасць прыводзіць да сухога шараванне і іх пашкоджання.

Так што адзінае выйсце ў гэтым выпадку – шукаць цёплы гараж і адагрэць паліўную сістэму. А пускаць дызель з буксіра наогул не рэкамендуецца, асабліва калі ГРМ прыводзіцца рэменем. Непашкоджаны дызель заводзіцца без дадатковых сродкаў падагрэву да –20 градусаў. Калі гэтага не адбываецца, працей знайсці і ўхіліць няспраўнасць, чым дацягнуць матор да капітальнага рамонту.

Не трэба разбаўляць салярку бензінам без крайняй неабходнасці – зносы паліўнай апаратуры з-за пагаршэння змазкі і самога рухавіка з-за парушэння працэсу згарання рэзка ўзрастаюць. Тым, у каго дызельны аўтамабіль, варта памятаць, што яго рухавік не любіць высокіх абаротаў. Доўгія паездкі на максімальнай скорасці – яшчэ адзін спосаб наблізіць капітальны рамонт. І ў заключэнне варта сказаць аб тым, што праграваць дызельны рухавік вельмі неабходна. Канешне, не да рабочай тэмпературы, але хоць бы 3-5 мінут.

### Якасць дызельнага паліва

Па статыстыцы прыкладна 50% няспраўнасцяў і паломкаў паліўнай апаратуры адбываецца з-за якасці паліва. Прычым не высокім утрыманнем серы і адхіленнем па цэтановаму ліку. А вось элементарная наяўнасць вады і механічных прымесяў у паліве пагубная. Прычым запраўка замежным палівам, якое ў 3 разы даражэй, не ратуе, але затое звядзе на нішто ўсе эканамічныя перавагі дызеля. Салярка там можа быць і фінская, але ёмістасці для яе ўсё роўна не мыюцца. І эфектыўнага ратавання ад гэтай толькі расійскай бяды пакуль не знойдзена.

Некаторыя, праўда, даюць параду адстойваць салярку ў бочцы. Гэта, вядома, даволі-такі эфектыўна, але ж ці ёсць у кожнага такая магчымасць? Хочацца зазначыць, што толькі помпы рухавікоў Mercedes у стане без бачных вынікаў успрымаць тую дрэнь, якой запраўляюць.

Георгій ЦВЕЛЕЎ,
"Матасервіс" http://www.mdisel.ru

# Карта адлегласцей

## паміж населенымі пунктамі нашага рэгіёну

### Спіс транзітных аўтазаправачных станцый сістэмы «АЗС-Сервіс»

**МАЛАДЗЕЧНА:**
вул. Гарадоцкая (60984),
Вялікі Гасцінец, 1а (5054);
вул. Прафсаюзная (60894),
завулак Асіпенкі (71622);
в.Дзікшняны (95575, 95881),
в.Плябань (99790) – ш.Маладзечна – Мінск

**ВАЛОЖЫН:**
вул. Пушкіна (55133),
74 км ш. Мінск — Гродна (54336)

**МЯДЗЕЛ:**
Інтэрнацыянальная, 8 (55253, 50715),
в. Швакшты (46722)

**ВІЛЕЙКА:**
вул. Стаханаўская (32247),
в. Ручавыя (59175),
вул. Гідрабудаўнікоў (32209)

**СМАРГОНЬ:**
вул. Чыгуначная, 9 (тэл. 31033),
вул. Чыгуначная, 38 (31600)

**АШМЯНЫ:**
в. Будзёнаўка (21033)

**АСТРАВЕЦ:**
№6 (20531),
в. Міхалішкі (37725)




| | Маладзечна | Радашкавічы | Гарадок | Лебедзева | Хажова | Вілейка | Даўгінава | Ільля | Мядзел | Свір | Купа (Нарач) | Астравец | Гудагай | Варняны | Міхалішкі | Ашмяны | Гальшаны | Валожын | Івянец | Ракаў | Вішнева (Валож. раён) | Смаргонь | Вішнева (Смарг. раён) | Крэва | Мінск |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Маладзечна | **0 (км)** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Радашкавічы | 32 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Гарадок | 22 | 23 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Лебедзева | 10 | 42 | 30 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Хажова | 9 | 34 | 12 | 18 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Вілейка | 24 | 52 | 45 | 33 | 33 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Даўгінава | 66 | 65 | 88 | 76 | 76 | 43 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ільля | 38 | 39 | 60 | 47 | 47 | 31 | 35 | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Мядзел | 68 | 96 | 89 | 78 | 77 | 46 | 46 | 66 | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Свір | 84 | 112 | 105 | 78 | 93 | 62 | 78 | 91 | 46 | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Купа (Нарач) | 86 | 114 | 107 | 95 | 95 | 64 | 65 | 85 | 19 | 30 | | | | | | | | | | | | | | | |
| Астравец | 90 | 122 | 105 | 81 | 98 | 96 | 127 | 126 | 92 | 53 | 76 | | | | | | | | | | | | | | |
| Гудагай | 89 | 121 | 104 | 80 | 97 | 95 | 132 | 125 | 96 | 58 | 80 | 4 | | | | | | | | | | | | | |
| Варняны | 87 | 119 | 107 | 77 | 94 | 90 | 114 | 119 | 78 | 41 | 62 | 14 | 18 | | | | | | | | | | | | |
| Міхалішкі | 90 | 122 | 110 | 80 | 98 | 78 | 94 | 107 | 59 | 21 | 42 | 33 | 38 | 20 | | | | | | | | | | | |
| Ашмяны | 68 | 68 | 83 | 59 | 76 | 74 | 117 | 104 | 108 | 64 | 94 | 24 | 23 | 38 | 57 | | | | | | | | | | |
| Гальшаны | 78 | 78 | 74 | 72 | 72 | 96 | 138 | 116 | 130 | 86 | 116 | 45 | 43 | 58 | 78 | 22 | | | | | | | | | |
| Валожын | 38 | 55 | 32 | 46 | 30 | 61 | 104 | 76 | 106 | 108 | 123 | 81 | 80 | 95 | 111 | 59 | 42 | | | | | | | | |
| Івянец | 66 | 54 | 46 | 74 | 57 | 89 | 129 | 94 | 133 | 138 | 151 | 110 | 109 | 124 | 110 | 88 | 72 | 29 | | | | | | | |
| Ракаў | 44 | 29 | 24 | 53 | 35 | 68 | 104 | 68 | 112 | 128 | 130 | 115 | 114 | 128 | 133 | 93 | 80 | 38 | 27 | | | | | | |
| Вішнева (Валож. раён) | 57 | 77 | 54 | 52 | 52 | 80 | 123 | 95 | 125 | 105 | 131 | 64 | 63 | 77 | 97 | 41 | 22 | 22 | 52 | 60 | | | | | |
| Смаргонь | 39 | 71 | 59 | 29 | 46 | 42 | 84 | 71 | 76 | 50 | 76 | 55 | 54 | 48 | 52 | 32 | 54 | 59 | 89 | 81 | 56 | | | | |
| Вішнева (Смарг. раён) | 67 | 95 | 88 | 58 | 75 | 46 | 75 | 75 | 56 | 36 | 48 | 78 | 82 | 67 | 52 | 60 | 82 | 88 | 118 | 110 | 41 | 30 | | | |
| Крэва | 40 | 72 | 60 | 31 | 48 | 62 | 105 | 78 | 97 | 71 | 96 | 51 | 50 | 65 | 73 | 29 | 42 | 38 | 67 | 72 | 34 | 22 | 51 | | |
| Мінск | 75 | 43 | 61 | 85 | 72 | 95 | 105 | 69 | 135 | 155 | 155 | 152 | 150 | 162 | 165 | 129 | 117 | 75 | 64 | 37 | 96 | 114 | 138 | 108 | |
| Гродна | 239 | 258 | 235 | 234 | 232 | 262 | 305 | 277 | 307 | 271 | 301 | 230 | 229 | 244 | 263 | 207 | 188 | 203 | 212 | 232 | 182 | 237 | 266 | 215 | 269 |

**Вылічэнні былі зроблены на камп'ютэры з дапамогай дыска "Карта-путеводитель". Выбраны найкарацейшы шлях ад аднаго населенага пункта да другога.**

# Маладзечна – горад і людзі

**Не бачу асаблівай патрэбы ў пераліку імёнаў вядомых людзей, чый лёс пераплятаўся з Маладзечнам. Яны ў літаральным сэнсе выліты на камені, што вось ужо 20 гадоў стаіць на рагу вуліцы Прытыцкага і Вялікага Гасцінца па дарозе да новага Палаца культуры.**

Асабістая заслуга ў пошуку і ўсталяванні ў 1982 годзе такога ўнушальнага па памерах каменя належыць удзельніку Вялікай Айчыннай вайны, былому другому сакратару Маладзечанскага райкома кампартыі Вячаславу Ляшковічу. Менавіта дзякуючы энтузіязму гэтага краязнаўца пастаўлены шматлікія камяні з мемарыяльнымі дошкамі пры дарогах у раёне.

Аўтару гэтых радкоў належыць падрыхтоўка тэкстаў, вылітых на мемарыяльных дошках, прымацаваных на вышэйзгаданым камяні. Так што кожны гараджанін ці госць Маладзечна можа азнаёміцца з размешчанымі на ім звесткамі з гісторыі горада і аб тых, хто жыў і працаваў у ім у розныя часы.

Таму дазволю сабе распавядаць аб маіх сучасніках, якія пакінулі добры след у памяці людзей і гісторыі Маладзечна.



Гісторык Генадзь Каханоўскі (першы злева) і былы рэдактар маладзечанскай раённай газеты "Святло камунізму" Вячаслаў Ляшковіч (трэці злева) зрабілі шмат для вяртання імёнаў нашых слаўных, але несправядліва забытых землякоў. Канец 70-х, пачатак 80-х гадоў.

Фота Міхаіла АСАЕВІЧА.

Гісторыкам ад бога можна назваць Мікалая Ермаловіча. Ён нарадзіўся ў 1921 годзе ў Навасёлках Дзяржынскага раёна. Пасля вучобы ў Мінскім педінстытуце М.Ермаловіч у 1948 годзе прыехаў выкладаць у Маладзечанскі настаўніцкі інстытут. І з той пары да дня трагічнай смерці (у 2000 годзе загінуў пад коламі аўтамабіля) звязаў свой лёс з горадам.

Менавіта на Маладзечаншчыне маладога гісторыка, па яго асабістым прызнанні, уразіла назва вёскі Літва паміж Палачанамі і Беразінскім. Адкуль яна, калі да сучаснай Літвы не менш за 100 кіламетраў? Жаданне разгадаць гэтую загадку яшчэ больш узмацнілася, калі вызначыў, што вёскі з такой жа назвай ёсць у Стаўбцоўскім і іншых раёнах. Усё гэта падказала напрамак навуковых пошукаў. Даследаванне гісторыі старажытнай Беларусі і Вялікага княства Літоўскага стала сэнсам жыцця гэтага гісторыка-падзвіжніка. Дзесяткі гадоў Мікола Ермаловіч штодзённа раніцай ехаў электрычкай у Мінск, дзе ў галоўнай бібліятэцы рэспублікі ў беларускай зале ў яго быў асабісты куток для навуковай працы. Менавіта там у 1987 годзе мне пашчасціла атрымаць для азнаямлення ад самога М.Ермаловіча надрукаваныя на машынцы яго працы па гісторыі старажытнай Беларусі (полацкі і віленскія перыяды) і артыкул "Па слядах аднаго міфа". Пры гэтым, праўда, было сумна сказана, што гэтыя рукапісы ніколі не будуць прынятыя да выдання, бо супярэчаць афіцыйнай версіі гісторыі рэспублікі.

Грамадзянскім і навуковым подзвігам М.Ермаловіча было тое, што ён, абапіраючыся на шматлікія летапісныя і іншыя гістарычныя першакрыніцы, зрабіў выснову аб тым, што ўласна гістарычная Літва, якая ў старажытнасці месцілася далей на захад ад Вільні, не мае ніякага дачынення да той Літвы, што дала назву Вялікаму княству Літоўскаму са сталіцай у Навагрудку. Назва княства паходзіць ад мясцовага славянскага насельніцтва, якое яшчэ ў часы Адама Міцкевіча, і сам паэт, называлі сябе ліцвінамі. Такім чынам, ВКЛ – не літоўская, а старажытнабеларуская дзяржава. Праўда, на гэты конт і сёння ў такога сцвярджэння ёсць апаненты, перш за ўсё з боку суседніх літоўскіх гісторыкаў. Да неаднназначнага, хутчэй кампраміснага, заключэння па пытанні чыёй усё ж дзяржавай было Вялікае княства Літоўскае прыйшла і спецыяльная навуковая канферэнцыя напачатку 90-х гадоў у Варшаве, якая вырашыла, што літоўцы могуць лічыць яе сваёй, а беларусы – таксама сваёй.

Нягледзячы на песімістычныя прадчуванні М.Ермаловіча, час, на шчасце, унёс свае карэктывы. Яго навуковыя даследаванні па гісторыі старажытнай Беларусі былі не толькі надрукаванымі ў 1990-1991 гадах, але і ўдастоены Дзяржаўнай прэміі Беларусі ў 1992 годзе, а самому даследчыку была прысвоена ступень кандыдата гістарычных навук.

Знакавай асобай сярод навукоўцаў-маладзечанцаў з'яўляецца Генадзь Каханоўскі (1936-1994). Старанны прыхільнік беларускай мовы, на якой нязменна размаўляў нават у самыя непапулярныя для яе часы. Першы ў горадзе кандыдат гістарычных навук, самаадданы краязнавец, фалькларыст, аўтар гісторыка-эканамічных кніжак-нарысаў аб Маладзечне, Вілейцы і інш. Ён аўтар літаратурна-краязнаўчых нарысаў пра Янку Купалу, М.Багдановіча, Я.Баршчэўскага, А.Гурыновіча.

Службовы шлях Г.Каханоўскага ў дзелавых і псіхалагічных адносінах не назавеш лёгкім. Яму – прызнанаму ў рэспубліцы спецыялісту ў галіне археалогіі і краязнаўства Беларусі, будучаму аўтару навуковай манаграфіі па гэтых праблемах – гадамі прыходзілася працаваць пад кіраўніцтвам амбіцыёзных і малапісьменных у гістарычнай спадчыне кіраўнікоў абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне, пакуль сам не ўзначаліў гэтую ўстанову. Дзякуючы Г.Каханоўскаму ў горадзе ўшанаваны імёны В.Таўлая і іншых выдатных людзей. Г.Каханоўскі з 1982 года працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, але Маладзечна не пакідаў. У 1992 годзе стаў доктарам гістарычных навук. У 1989 годзе Генадзь Каханоўскі стаў першым старшынёй Беларускага краязнаўчага таварыства, якое ўзначальваў да сваіх апошніх дзён у 1994 годзе.

Як бы хто ні адносіўся да часоў нядаўняга панавання камуністычнай партыі, але факт застаецца фактам: менавіта яна была кіруючай структурай, і рэальнымі гаспадарамі ў горадзе былі першыя сакратары гаркома КПБ. Былі, вядома, і старшыні гарвыканкома, але ім адводзіліся другасныя ролі.

З асабіста вядомых мне першых сакратароў А.С.Богдана, У.І.Пузя, Г.Г.Барташэвіча, К.І.Туровіча, Я.К.Стахоўскага кожны ў рамках адведзеных зверху паўнамоцтваў і магчымасцяў уносіў сваю станоўчую долю за час знаходжання на пасадзе ў развіццё Маладзечна.

Разам з тым многае залежала і ад уласнай ініцыятывы і энергіі кіраўніка. Найбольш прыметнай у гэтым плане фігурай быў Генадзь Барташэвіч (1934-1993). Карэнны мінчанін, ён за тры няпоўныя гады на пасадзе першага сакратара Маладзечанскага гаркома КПБ са снежня 1970 года па жнівень 1973 года пакінуў, на наш погляд, найбольшы след. Яго можна назваць "сакратаром-будаўніком".

Ён разумеў, што аднаму трэсту "Маладзечнасельбуд" не пад сілу ажыццяўляць будаўніцтва аб'ектаў у Маладзечне, Вілейцы, Мядзеле, Валожыне і іншых раёнах, і таму ўдала выкарыстаў у 1972 годзе на бюро ЦК КПБ перад П.М.Машэравым справаздачу аб рабоце Маладзечанскага гаркома КПБ па выкананні пастановы партыі аб барацьбе з п'янствам (першая антыалкагольная кампанія была распачата ў 1972 годзе, так што ў 1985 годзе пайшлі, як кажуць, па другому разу), каб "прабіць" стварэнне ў горадзе будтрэста №23, галоўнай задачай якога будзе ўзвядзенне толькі гарадскіх аб'ектаў.

Да гэтай пары здзіўляюся яго неўтаймоўнай энергіі. Пры ім былі пабудаваныя хірургічны корпус гарбальніцы, раддом, дзіцячая музычная школа, лёгкаатлетычны манеж, корпус інфекцыйнай бальніцы, няпланавая СШ №10, фарсіравана будаўніцтва пуцеправода, забудова праспекта ўбок завода "Электрамодуль", рэканструяваны стадыён і Дом культуры будаўнікоў, здабыты рашэнне і сродкі на будаўніцтва гасцініцы. Гэта не поўны пералік. І не дзіва, што ўсё гэта было заўважана на вярхах, а Г.Барташэвіч у далейшым стане старшынёй Мінаблвыканкома, першым сакратаром Мінскага гаркома партыі, другім сакратаром ЦК КПБ, Надзвычайным паслом СССР у Карэйскай народна-дэмакратычнай рэспубліцы.

Маладзечна наогул вызначалася добрай стартавай пляцоўкай альбо прамежкавай ступенню ў кар'ерным росце (у лепшым сэнсе гэтага слова) для тых, хто звязаў з ім сваю біяграфію.

З першага сакратара Маладзечанскага абкома камсамола пайшоў у вялікую палітыку П.М.Машэраў. З камсамольскіх важакоў ў Маладзечне сталі ў будучым Героем Сацыялістычнай Працы і кіраўніком Гродзенскай вобласці Л.Г.Кляўкоў, а таксама старшыня Белсаўпрофа М.Н.Поладаў. З першага сакратара Маладзечанскага абкома партыі стаў сакратаром ЦК КПБ, Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР С.В.Прытыцкі. Першым намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР стаў першы пасляваенны сакратар Маладзечанскага абкома КПБ І.Ф.Клімаў. Генеральным дырэктарам саюзнага аб'яднання прыборабудаўнічых заводаў у Сімферопалі, потым прэм'ер-міністрам Крымскай рэспублікі стане дырэктар Маладзечанскага завода "Спадарожнік" А.Р.Франчук. Намеснікам міністра электратэхнічнай прамысловасці СССР у Маскве будзе прызначаны дырэктар завода паўправадніковых вентыляў Ю.В.Захараў. Ад навучэнца Маладзечанскага палітэхнікума да дырэктара піўзавода ў Маладзечна і Мінску, першага намесніка Старшыні Савета Рэспублікі пройдзе шлях Т.М.Дудко. Намеснікам старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу рэспублікі стане дырэктар завода парашковай металургіі Г.М.Карпенка. Да міністра юстыцыі рэспублікі вырасце гарадскі суддзя Г.М.Варанцоў. Сакратаром Мінскага абкома КПБ, намеснікам старшыні аблвыканкома стане выпускнік СШ №2, начальнік цэха мэблевай фабрыкі, першы сакратар гаркома камсамола і ГК КПБ К.У.Туровіч. Намеснікамі міністраў прамысловасці рэспублікі працавалі былы начальнік АТК завода "Спадарожнік" і другі сакратар гаркома партыі М.К.Бохан, сельскага будаўніцтва – кіраўнік трэста "Маладзечнасельбуд" І.М.Русак. Шмат гадоў галоўным рэдактарам часопіса "Беларусь" працуе выпускнік СШ №2 А.М.Шабалін. Начальнікам галоўнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь стаў былы дырэктар ЖБВ і старшыня гарвыканкома У.М. Буянаў.

Упэўнены, што будзе яшчэ нямала новых імёнаў людзей, для якіх Маладзечна стане незабыўнай старонкай на жыццёвым шляху.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

■ ГАРАДКІ

# Перамога маладзечанцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. На чэмпіянат краіны ў закрытым памяшканні сабраліся амаль усе мацнейшыя спартсмены краіны.**

З 25 чалавек 16 прадстаўлялі Маладзечаншчыну, астатнія прыехалі з Бярозаўкі, Мінска і Жодзіна. Спаборнічалі 3 дні. Кожны спартсмен выбіваў па 30 фігур штодзень. Пераможца вызначаўся па найменшай колькасці бітаў, якія спатрэбіліся яму на выбіванне 90 фігур.

Пяцёрка мацнейшых атрымалася наступнай:
1. Генадзь Сушко .... 120 бітаў
2. Аляксандр Яршэвіч ..... 133
3. Пётр Чаркоўскі ............ 134
4. Ілья Чарноў ................. 134
5. Юрый Найлавец............ 134

Як бачым, лепшы беларускі гарадошнік **Генадзь Сушко** перамог са значным адрывам. З прыезджых у пяцёрцы толькі бярозавец Пётр Чаркоўскі. Ёсць новае імя – **Ілья Чарноў**, які ўпершыню выканаў нарматыў майстра спорту. Ён нарадзіўся ў 1980 годзе, зараз служыць па кантракце ў Красным.

17-23 лютага ў закрытым памяшканні ў Ніжнім Ноўгарадзе пройдзе першы этап розыгрышу Кубка Еўропы. Гэта будзе дванаццаты міжнародны турнір памяці Віктара Рабцава. Схема класічная: асабісты трохдзённы турнір, камандны кругавы з шасцю чалавекамі ў складзе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



Маладзечанская гарадошная школа – лепшая ў краіне, што даказаў апошні чэмпіянат Беларусі. У вядомых гарадошнікаў расце маладая змена. Адзін з іх – Станіслаў Танана. Уладальнік трэцяга дарослага разраду па гарадках. Заняў 3 месца ў складзе зборнай Беларусі на юнацкім чэмпіянаце Еўропы ў Еўпаторыі. Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ КОННЫ СПОРТ

# Будні і радасці палачанцаў

**ПАЛАЧАНЫ. Аб учарашніх перамогах, сённяшніх праблемах і заўтрашніх планах паведаміў заснавальнік коннаспартыўнай школы Уладзімір Пятроў.**

## Падзеі 2002 года

**Сяргей Пятроў** (1978 г.н., майстар спорту, студэнт другога курса Беларускай дзяржаўнай акадэміі фізічнай культуры) у лютым 2002 года стаў абсалютным чэмпіёнам краіны на конях розных узростаў.

Другі год запар каманда палачанцаў перамагла ў Кубку Даватара. У складзе былі Сяргей і **Віктар** (1981 г.н., майстар спорту) **Пятровы** і **Алена Вальчык** (1982 г.н., майстар спорту, працуе ў Палачанах трэнерам маладых коней). Апошнія двое ўвесь сезон выдатна выступалі на турнірах сярод юніёраў.

Многа поспехаў на юнацкіх спаборніцтвах было ў **Вольгі Пятровай** (1986 г.н., студэнтка Вілейскага філіяла тэхнікума бізнесу і права), напрыклад, шэсць прызавых месцаў на рэспубліканскіх Алімпійскіх днях моладзі ў асабістых стартах, а ў камандным заліку на яе рахунку перамога ў складзе зборнай Мінскай вобласці.

Занята першае месца сярод васьмі каманд ДЮСШ па ўзросту 1988-89 г.н.. Выступалі тут **Святлана Рубан, Валерыя Патапава** і **Сяргей Казлоў**.

Натуральна, важным быў дамашні старт у чэрвені. Тут найлепш сябе праявіла **Алена Вальчык**.

У 2003 годзе былі ўжо два старты ў студзені па праграме спартакіяды сярод ДЮСШ (1989-90 г.н.). У Гомелі другое каманднае месца занялі Святлана Рубан, Сяргей Казлоў і **Уладзімір Захараў**.

## Справы будзённыя

Адкрыты чэмпіянат краіны пройдзе ў Ратамцы 19-22 жніўня. Кубак краіны для 6-цігадовых і старэйшых коней будзе ў Гомелі 10-12 красавіка.

Збіраюцца палачанцы зноў удала выступіць на міждзяржаўным турніры Кубак Даватара 7-11 мая ў Ратамцы.

У школе два трэнеры. Уладзімір Пятроў працуе са старэйшымі (каля 15 чалавек), а **Наталля Шаліма** – з малодшымі (каля 20-ці).

Аблвыканкам выдзеліў грошы, каб набыць грузавую машыну для перавозкі коней. Машына зараз ёсць, але няма за што яе абсталяваць належным чынам. Ёсць праблемы і з рыштункам. Асабліва вучням не хапае касак. Без іх жа тэхніка бяспекі не дазваляе не тое што выступаць, але і трэніравацца. Даводзіцца выкарыстоўваць нестандартныя каскі, напрыклад, веласіпедныя ці будаўнічыя, якія часам перашкаджаюць спартсменам.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КОНКУРС

# На кон — 4 шалікі

**Паўтараем пытанні першага этапа конкурсу для чытачоў на веданне спартыўных правіл.**

Адказы прымаюцца да **пятніцы, 14 лютага**, уключна. Іх можна дасылаць на адрас рэдакцыі (з паметкай "Спартыўны конкурс"), можна прыносіць у рэдакцыю асабіста, можна дасылаць электроннай поштай на адрас: konkurs@tut.by.

Пераможцу кожнага з трох этапаў, а таксама лепшаму ўдзельніку па суме ўсяго конкурсу будуць уручаны фірменныя шалікі ФК "Маладзечна-2000".

**Пытанні першага этапа**

**Акрабатыка.** У якім раздзеле спаборніцтвы не праводзяцца?

А – змешаная пара. Б – жаночая пара. В – жаночая тройка. Г – мужчынская тройка.

**Баскетбол.** На якой вышыні над пляцоўкай вісіць карзіна?

А – 285 см. Б – 305 см. В – 325 см. Г – 345 см.

**Валейбол.** Якія функцыі ў гульца "лібера"?

А – дзейнічае толькі ў сетцы, мае права на дадатковае крананне. Б – дзейнічае толькі на задняй лініі, можа замяняцца неабмежаваную колькасць разоў. В – дзейнічае толькі на задняй лініі, абавязкова выконвае падачу. Г – дзейнічае толькі ў сетцы, можа замяняцца неабмежаваную колькасць разоў.

**Гандбол.** Нападаючы змагаецца з абаронцамі ля шасціметровай лініі, непасрэдна варотам не пагражае. Супраць яго парушаюць правілы, але мяч у нападаючага застаецца. Пры гэтым ён вымушаны заступіць за шасціметровую лінію. Што прызначаць арбітры?

А – кідок праз сценку з дзевяці метраў. Б – свабодны розыгрыш на дзевяці метрах. В – пенальці з сямі метраў. Г – пераход мяча да каманды, якая абаранялася.

**Дзюдо.** Спартсмен прайграў у першай жа схватцы на турніры. На які медаль ён можа прэтэндаваць далей?

А – на "золата", бо толькі другое паражэнне пазбаўляе ўсіх шансаў. Б – на "серабро", бо той, хто аднойчы саступіў, аніяк не можа стаць чэмпіёнам. В – на "бронзу", бо сярод тых, хто аднойчы саступіў, праводзіцца асобны турнір за трэцяе месца. Г – ні на які, бо ўдзел заканчваецца пасля першага паражэння.

**Інваспорт.** Колькі катэгорый інваліднасці па зроку існуе ў лёгкай атлетыцы?

А – адна. Б – дзве. В – тры. Г – чатыры.

**Заўвага.** У адказах дастаткова запісаць від спорту і шыфр вашага адказу, напрыклад, "Дзюдо – Б".

**Дадатковыя пытанні**

З якім лікам 19-га лютага закончацца матчы "Рэал" (Мадрыд, Іспанія) – "Барусія" (Дортмунд, Германія) і "Мілан" (Італія) – "Лакаматыў" (Масква, Расія)?

У дадатковых пытаннях крытэрыі вызначэння лепшых адказаў наступныя:

1. Колькасць правільных лікаў у адказе. 2. Колькасць правільных выхадаў (перамога той ці іншай каманды альбо нічыя) у адказе. 3. Найменшая памылка пры вызначэнні колькасці забітых мячоў у двух матчах паасобку.

Каментарый да трэцяга пункту. Прыклад: прагноз (0:0 і 2:4), а на самой справе (2:1 і 1:1). Маем памылку: 3+4=7.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КАРАТЭ

# Рыхтаваліся і душой, і целам

**МАЛАДЗЕЧНА. Выхаванцы дзіцяча-спартыўнага клуба "Сакура" занялі 3-е месца на рэспубліканскім турніры па каратэ "Адкрыты кубак". Больш за 300 удзельнікаў з'ехалася з усёй Беларусі. Турнір прайшоў у Мінску.**

**Міхаіл Семашкевіч, Наталля Цялюкіна, Аляксандра Касценка** рыхтаваліся да спаборніцтваў 2 тыдні. Вельмі шчыра і аддана. Трэніраваліся па 4 гадзіны ў дзень. Елі шмат кашы і бульбы. Нават ад заняткаў у школе вызвалілі. Дзеці кажуць, гэта больш за ўсё дапамагло перамагчы. Адным словам, рыхтаваліся і душой, і целам.

Здабывалася перамога складана. У сапернікаў быў высокі ўзровень падрыхтоўкі. Судзілі строга. Кожная пара спаборнічала 3-4 хвіліны. За гэты час паспяваюць зрабіць да 10-15 удараў і столькі ж разоў крыкнуць: "Кіяй!". Гэта слова азначае ўсплеск энергіі. Спартсмены кажуць, што "кіяй" — самы важны і заключны этап у выкананні элемента.

На турніры маладзечанцы абышліся без траўм і крыві. Яны бываюць толькі на нязначных трэніроўках.



Пераможцы рэспубліканскага турніру па каратэ "Адкрыты кубак" – выхаванцы маладзечанскага клуба "Сакура" Міхаіл Семашкевіч і Аляксандра Касценка. Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Ірына РАБУШКА.**

■ БАСКЕТБОЛ

# Турнір дзіцячай лігі ідзе да фіналу

Працягваецца чэмпіянат дзіцячай баскетбольнай лігі ў юнакоў 1989 г.н.

СМАРГОНЬ. 27-30 студзеня прайшоў кругавы турнір за 1-6 месцы. Гаспадары (трэнер **Вольга Савоська**) занялі першае месца. Цяпер будзе заключны этап ў Мінску 8-9 красавіка. Смаргонцы там у паўфінале згуляюць з асіпаўчанамі.

Выніковая табліца турніру ў Смаргоні (пасля назваў каманд даецца лік матчаў гаспадароў супраць іх і колькасць атрыманых перамог).

| | | |
|---|---|---|
| 1.СДЮШАР (Смаргонь) ## | | 4 |
| 2.Мэджык-Баскет (Мінск) | 71:73 | 3 |
| 3.СДЮШАР-4 (Віцебск) | 61:44 | 3 |
| 4.ДЮСШ (Асіповічы) | 70:64 | 2 |
| 5.БМЗ (Жлобін) | 108:86 | 2 |
| 6.СДЮШАР-10 (Мінск) | 68:30 | 1 |

МАЛАДЗЕЧНА. У тыя ж тэрміны аспрачваліся 7-10 месцы. Прадстаўнікі Калінкавічаў не прыехалі, гамяльчане ўсіх перамаглі, а ў рашаючым для абодвух нашых зямлякоў матчы мацнейшым за гаспадароў былі валожынцы. Яны працягнуць барацьбу за 5-8 месцы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ **ФУТБОЛ**

Мінск, крыты манеж, кантрольныя матчы

**31 студзеня. Маладзечна-2000 – Лакаматыў (Мінск) 1:5 (0:1).**

Галы: Макрыцкі (88-пен); (12), (55), (68), (89), (90).

**31 студзеня. Маладзечна-2000 (дубль) – Лакаматыў (дубль) 0:1 (0:1).**

Гол: (2).

Турнір у Наваполацку

**3 лютага. Маладзечна-2000 – Лакаматыў-96 (Віцебск, Д2) 1:0 (0:0).**

Гол: Сысой (75-пен).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## ВІНШАВАНКІ

Віншую з днём нараджэння **Ігара Ляўковіча**! Жадаю здароўя, шчасця, кахання і ўсяго найлепшага. *Юлія.*

Віншую з днём нараджэння **Мікалая Казерскага**! Жадаю шчасця, радасці, моцнага здароўя. *Алёна Кузьміч.*

Віншую **Веру Уладзіміраўну Ахрэм** з днём нараджэння! Жадаю шчасця, поспехаў у рабоце, моцнага здароўя. *Алёна.*

Віншуем **Надзейку Саўчыц** з Вілейкі з 18-годдзем! Няхай шчасце, здароўе і каханне ідуць з табой па жыцці. *Тата і мама.*

Дарагую і любую ўнучачку **Надзейку Саўчыц** віншуем з паўналеццем! Здароўя, кахання, удачы, добрага настрою. *Дзядуля і бабуля Кавалікі.*

**Кацю Пяроўскую** з днём нараджэння! Шчасця, здароўя, даўгалецця, поспехаў у вучобе, здзяйснення пажаданняў. *Сяброўка Ганна.*

Дарагая дачушка **Ганначка Каросцік**, віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе. *Твае родныя.*

Віншуем з юбілеем **Ларысу Міхайлаўну Мялешку**! Жадаем здароўя, узаемнага кахання, сямейнага шчасця, радасці, удачы. *Твае сяброўкі.*

Віншуем з 40-годдзем **Святлану Іванаўну Івашкевіч**! Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *З павагай суседзі.*

Віншуем **Алену Фёдараўну Сівец** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, дабрабыту. *Дачка, зяць, унучка з Вілейкі.*

Віншуем з днём нараджэння **Алу Яўгенаўну Сокал** з Вілейкі! Жадаем здароўя, дабрабыту. *Калектыў д/с №5.*

Віншуем з днём нараджэння **Валянціну Іосіфаўну Азончык**! Жадаем здароўя, шчасця. *Калектыў д/с №5 з Вілейкі.*

Віншуем з днём нараджэння **Наталлю Вітальеўну Мядзелку** з Вілейкі! Жадаем здароўя, шчасця, кахання. *Калектыў д/с №5.*

Віншую **Ірыну Максімаўну** з юбілеем! Будзь заўсёды прыгожай, добрай і здаровай. З горам не сустракайся і часцей ўсміхайся. *Зоя Раманава.*

Дарагую хросную і сястру **Вольгу Аляксандраўну Крупенчык** са Смаргоні віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця. *Сям'я Русакоў.*



## ЗНАЁМСТВЫ

Пазнаёмлюся з мужчынам для сур'ёзных адносін. Пра сябе: 47/160/70. Валожын-1, МС 1010980.

Малады чалавек 34/170/70 пазнаёміцца з дзяўчынай 25-35 год. Маладзечна-7, п/п МС 0658381.

38/176. Пазнаёмлюся з жанчынай для ствараэння сям'і, пажадана без дзяцей. Жыву ў пасёлку Мінскай вобл. 220079, Мінск-79, а/с 183.

■ СУСТРЭЧЫ

# Прыклад для моладзі

**МАЛАДЗЕЧНА. У турклубе "Пілігрым" адбылася сустрэча з майстрам спорту міжнароднага класа Віктарам Жукоўскім.**

У 18 гадоў Віктар поўнасцю страціў зрок. У 1990 годзе прыехаў у Маладзечна. Праз год ажаніўся. Жонку завуць Наталляй. У іх сям'і расце сын Раман. Ён займаецца плаваннем і музыкай (класічнай гітарай).

Займаецца Віктар лёгкай атлетыкай. Яго самы лепшы вынік па скачках у даўжыню – 6 м 44 см, трайным – 12 м 66 см. Трэніруецца ён 6 разоў на тыдзень па паўтары-тры гадзіны. Першым трэнерам быў Георгій Шэлег.

Віктар з'яўляецца 4-кратным бронзавым прызёрам паралімпійскіх гульняў у Атланце і Сіднэі, 4-кратным сярэбраным прызёрам свету 1998 года і 2-кратным чэмпіёнам свету 2002 года, неаднаразовым сярэбраным і бронзавым прызёрам Еўропы і свету.

У час сустрэчы Віктару было зададзена шмат пытанняў, на якія ён ахвотна і цікава адказаў.

**Сяргей БЯЛКОЎ.**



**Спартсмен Віктар Жукоўскі з маці Нінай Рыгораўнай падчас сустрэчы з гараджанамі ў турклубе "Пілігрым".**

Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

■ ПРЭЗЕНТАЦЫІ

## Даведнік аб Нацпарку

**МЯДЗЕЛ. У Нацыянальным парку "Нарачанскі" выпусцілі даведнік па нарачанскім краі.**

У ім багата інфармацыі, фотаздымкаў, бо аб'ём – больш за 50 старонак. Маюцца і карты, практычныя парады. Пробны тыраж даведніка – 1000 экземпляраў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ КОНКУРСЫ

## Падлетак і закон

**МАЛАДЗЕЧНА. Больш за сотню хлопцаў і дзяўчат з усіх школ горада паўдзельнічалі ў інтэлектуальным конкурсе на тэму закона і права.**

Вучні СШ №7, якія перамаглі ў конкурсе, паедуць у Мінск на міжнародны турнір клубаў UNESCO. Старшыня журы, начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх **Барыс Сіняўскі**, адзначыў важнасць навучання моладзі праз цікавыя гульнявыя нетрадыцыйныя формы.

**Ларыса КАРЧЭЎСКАЯ.**

■ ВЫСТАЎКІ

## Злыя жарты прыроды

**ВІЛЕЙКА. З 30 студзеня ў памяшканні гісторыка-краязнаўчага музея працуе выстаўка васковых фігур ад Санкт-Пецярбургскага музея.**

Гэта другая за апошні год магчымасць для віляйчан наведаць падобнае відовішча. У лютым 2002 года тут размяшчаліся васковыя фігуры людзей-мутантаў. Цяпер экспазіцыя пашырана экспанатамі новага пакалення, якія рухаюцца, і зародкамі з Кунсткамеры.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ ЗДАРЭННІ

## Нешчаслівы год для Крывічоў

**МЯДЗЕЛ. Непрыемнымі паказчыкамі адзначаны мінулы год для Крывіцкага пасялковага Савета.**

Так, памерла тут 95 чалавек (у мінулыя гады памірала каля паўсотні). Затое зарэгістравана аж 3 забойствы, некалькі пажараў ва ўстановах ( згарэла музычная школа, пацярпеў і адзін з будынкаў бальніцы).

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**7-9 лютага. "Гары Потэр і філасофскі камень"**, ЗША, прыгоды – у 15.00, 17.30.

**"Амазонкі і гладыятары"**, ЗША-Германія – 19.50 і 21.20.

**10-16 лютага.** Прэм'ера. **"Тры іксы"**, ЗША, трылер-баявік – у 18.40 і 21.10 (акрамя 13 лютага).

**"Макасіны Маніту"**, Германія, камедыя – у 17.00 (13 лютага ільготныя білеты), 19.00 і 21.00.

**НАВІНКА СЕЗОНА!**

Кожную нядзелю ў 12.00 кінатэатр "Радзіма" запрашае весела і цікава правесці вольны час усёй сям'ёй – **"Вясёленькая нядзеля"** з вясёлай сямейкай. Для вас – гульні, конкурсы для татаў і мамаў, бабуляў і дзядуляў, для юных сяброў. Працуе бар. Дыскатэка. Самая модная. Прагляд мастацкіх фільмаў.

**9 лютага. "Шрэк"**, прыгоды.

**10 лютага. "Кароль паветра: ліга чэмпіёнаў"**, камедыя.

**ДЫСКАТЭКА** 14±2. Прыходзьце ў 19.00 кожную суботу. Працуе бар. Група з 12-і чалавек – 13 вядзе бясплатна.

***Кінатэатру «Радзіма» тэрмінова патрабуецца бармен.***

**28 лютага ў 19.00 – Сяргей МІНСКІ ў танцавальна-канцэртным шоу "Горад мой"**. У праграме прымаюць ўдзел лепшая Dance – каманда года Candi Man, лаўрэат міжнародных конкурсаў спявачка Галіна Шышкова. Білеты прадаюцца. Цана – 4000 руб.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ ІМЯНІНЫ

**7 лютага**
**Праваслаўныя**: Віталя, Піліпа, Рыгора.
**Каталіцкія**: Рамуальда, Рышарда, Тодара.
**8 лютага**
**Праваслаўныя**: Антона, Івана, Пятра, Фёдара.
**Каталіцкія**: Герасіма, Яна.
**9 лютага**
**Праваслаўныя**: Івана (Іаана Златавуста).
**Каталіцкія**: Апалоніі, Кірылы.
**10 лютага**
**Праваслаўныя**: Ісака, Яфрэма.
**Каталіцкія**: Схаластыкі, Яцка.
**11 лютага**
**Праваслаўныя**: Ігната, Рамана, Селівана.
**Каталіцкія**: Бярнарды, Марыі, Лазара.
**12 лютага**
**Праваслаўныя**: Васіля, Пятра, Рыгора.
**Каталіцкія**: Яўлаліі, Мадэста, Юльяна.
**13 лютага**
**Праваслаўныя**: Віктара, Івана, Мікіты, Нікіфара.
**Каталіцкія**: Катарыны, Рыгора.

## Купон 6

рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

**Звярніце ўвагу**

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

